Пралетары усіх краёў, злучайцеся!



# Вольны Сьцяг

Навукова-Літэратурны Аддзел Камісарыяту Народнае Асьветы Беларусі.

Рэдакцыя: Менск, Захараўская вул., б. Юбілейны дом.

Год выд. II.

№ 1 (3).

15 мая 1921 г.

Зьмест 1 (3) нумару:



Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.

# Библіяграфія.

## На шляху адраджэньня.

(«Курс Белоруссоведения»).

Твораў аб культурна-эканамічным становішчы Беларусі блізка што няма. А калі й ёсць, дык такія, што захованы ад вачэй народу. Матар'ялаў дзеле навуковага пазнаньня Беларусі ёсьць даволі,—іх толькі трэба апрацаваць і зрабіць папулярнымі. Беларускае адраджэньне захопліваець усё шырэйшыя наслоі сялянства й інтэлігэнцыі,—патрэба ў літэратуры прынцыпова-навучнага зьместу расьце. Народ захацеў пазнаць сябе, адраджэнцы —інтэлігэнты хочуць ня толькі верыць, але й ведаць. А таму ўсякі навукова-папулярны твор аб Беларусі й беларусах трэба прывітаць, як пільна патрэбную духоўную страву.

Гэткім творам зьяўляецца «Курс белоруссоведения», выданы Беларускім П'аддзелам Ад. Нац. Меншасьцяў Нар. Кам. Асьветы. Курс прызначаны глаўным чынам для школьных працаўнікоў, але й шырокае грамадзянства можа з яго добра скарыстаць. «Курс» састаўлены з лекцыяў, чытаных у Беларуск. Нар. Універсытэце ў Маскве летам 1918 году. «Гісторыю беларускага народу» выклаў праф. Пічэта даволі поўна для навучна- папулярнага «Курсу» й з добра выдзержаным напрамкам сувязі эканамічнага й політычна-грамадзянскага жыцьця, з статыстычнымі данымі. Пытаньне аб «беларускай тэрыторыі» вырашае Д. Анучын. Прызнаючы «што Беларусь, бязумоўна, мае засьваньні пратандаваць на аўтаномію, на політычна-нацыянальную самастойнасьць, і пры тым *у найбольшым сувязку з найболей роднай ёй народнасьцю вялікарускаю*“, ён абглядае этнаграфічныя мэты Беларусі згодна Карскаму; ў канцы Анучын дадае: «Хочацца думаць, што гэты развал на часьці Расіі ня будзе вечным, што часткі гэтыя спазнаюць патрэбу ў злучэньні, ў стварэньні зноў «общей великой России»,—чым характэрна паказывае сваё адносіны да самавызначэньня беларусаў. Такое-ж думкі дзяржыцца й Сілініч, што напісаў «Географічны нарыс Беларусі»; ён усё хоча паказаць, што сама натура не паклала асобнае адзнакі Беларусі ад «великой русской равнины». Падобна таму, як у адносінах форм свайго рэльефу і ў адносінах ранейшай гісторыі сваей геолёгічнай долі, Беларуская «область» является неотъемлемой частью великой русской равнины, точно также и в климатическом отношении она неразрывно связана... По распределению осадков Белоруссия точно также ничем почти не отличается от остальной части Евр. России... Водная флора мало чем отличается от таковой же всей Евр. России... «В общем картина распространения животной жизни ничем существенным не отличается от общей картины расселения на территории Е. России“... і г. д., гэтак далей... А агульны вынік Сіліліча проста дзівіць: «Будучи долгое время крайней Запад. областью Русск. государства, Белорусь не раз становилась ареной кровавой борьбы между Европ. западом и Россией и претерпела не мало в этой роли крайнего запад. аванпоста русского народа в Европе. Таким же аванпостом русского государства предстоит ей сделаться и теперь и в еще большей мере после отделения Польши»...

Пр. Чапуркоўскі («Антрополёгія беларусаў») стаіць на такіх-жа паглядах: «Один вывод из набросанной сдесь картины распределения типов белоруса м. б. сделан, впрочем, и теперь: это то, что он близкий родственник великоросса».

Н. Янчук у «Этнаграфічным нарысе Беларусі» спачатку кажа гэтак: «Между тем но образу жизни, обычаям, костюму восточные белоруссы приближаются к великоруссам, южные и юго-восточные—к малоруссам, западные к подляскам и полякам... То же самое наблюдается и в языке коренного населения... Исторические судьбы этих отдельных частей Белоруссии также слагались различно, а потому не может быть единообразия во всем укладе народной жизни, во взглядах и понятиях всего белорусского народа в его целом». Але далей, зрабіўшы больш, чым этнаграфічны нарыс, ён прыхільна гаворыць аб новым культурным жыцьці («адраджэньне») й спадзяецца, што Беларусь—

Зацьвіце яна, як сонца
Пасьля непагоды,
У роўным стане, ў роўным праве
Між усіх народаў.

Жыва, зразумела, з цікавасьцю чытаецца лекцыя «Беларуская мова ў яе цяперашнім і прайшоўшым становішчы» П. Растаргуева.

Аб беларускай літэратуры кароткі, сьціснуты агляд зрабіў З. Жылуновіч (пабеларуску). Лекцыі пр. М. Селішчанскага па «мэтодыцы радзіназнаўства» ставяць перад вучыцелем на Беларусі новыя праблемы, як тэарэтычныя, так і практычныя. Шкода толькі, што разам няма лекцый па краязнаўству.

Статыстычны матар'ял аб народнай і сельскай гаспадарцы раскідан ва ўсіх лекціях, асобна-ж аб сел.-гасп. сабраны ў нарысу Ал. Фартунатава. Нарыс зроблен даволі ровнабока, але не па ўсей Беларусі, а толькі па 6 губэрнях. Сабраныя цыфры гавораць яскрава аб нашым сел.-гаспадарскім становішчы й толькі чакаюць поўнага папулярнага тлумачэньня. Яно-б паказала кожнаму шлях і нашай будучай гаспадаркі, ў паляпшэньні якой—заклад на эканамічнае адраджэньне краю.

(Гл. 3-ю стр. вокладкі).

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Год выд. II.

№ 1 (3).

15 Мая 1921 году.

БЕЛАРУСКАЯ ЛІТЭРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ І ПОЛІТЫЧНА-ГРАМАДЗЯНСКАЯ ЧАСОПІСЬ.

*ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ РАЗ У МЕСЯЦ.*


## Алесь Гарун.

*(Аляксандар Прушынскі).*

Нейкі лёс няшчасьця вісіць над беларускімі поэтамі й пісьменьнікамі. Шмат з нашых выдатнейшых сіл, маладых і таланных, пайшлі ў нябыт за час вайны й рэвалюцыі. Цэлы рад магіканаў беларускага адраджэньня, з эпохі „Нашае Нівы“, без пары перайшоў у царсгва вечнасьці, як, напр. М. Багдановіч, Цётка, Ігнат Буйніцкі, Каганец, Петрашкевіч, Лявон Гмырак, Ів. Луцкевіч і інш.

Гэтыя беларускія літаратары ў большай часьці згінулі ад сухот, як ахвяры беднаты й кепскіх варункаў жыцьця.

Яшчэ магілкі іхнія такія сьвежыя. Яшчэ раны ў нас не загаіліся ад гэтых вялікіх страт, яшчэ іх недахват чуецца ў нас на кожным кроку,—ажна дайшла да нас новая сумная вестка—памёр у Швэйцарыі ад сухот адзін з выдатнейшых нашых поэтаў Алесь Гарун (Аляксандар Прушынскі).

Аляксандар Прушынскі радзіўся ў 1887 г. у Менску. Бацькі яго былі бедныя чарнарабочыя. І вось з самага маленства Прушынскаму прыходзілася цярпець гора й недахваты. Вучыўся будучы пясьняр у пачатковай школе, але доўга вучыцца сыну горапашных людзей было немагчыма й каб здабыць сабе кавалак хлеба, ён пашоў у сталяры.

Але Муза беларускіх лясоў і балот, якая пры раджэньні хлопчыка налажыла яму на чало поэтыцкі вянок, не давала яму супакою з самых малых гадоў—усё нашэптывала яму на вуха свае вабныя, чароўныя казкі:

„Аглядайся на прыгожы Божы сьвет... Вучыся... Скарбы багатыя захаваны ў сэрцы тваім“...

І вось маленькі хлопчык, як галодны, рваўся да кніг і чытаў іх без разбору, якія толькі пападаліся яму ў рукі. Гэтакім чынам будучы пясьняр разьвіваўся вельмі рана, ня гледзячы на самыя жудасныя абставіны голаду й холаду.

Рэвалюцыя 1905 г. застала яго ўжо ў партыі с.-р., у якую ўступіў у Менску ў 1904 г., і тады ён пачаў цікавіцца соцыяльна-політычным і нацыянальным рухам. Тады ён зрабіўся гарачым заступнікам сялян і рабочых. У адплату за сваю рэвалюцыйную працу меў ён царскую турму, а потым вечную ссылку ў Сыбір. Там пясьняр пражыў аж да рэвалюцыі 1917 г.

Соцыялістычныя вершы Алесь Гарун пачаў пісаць яшчэ ў Менску, а потым у вастрозе.

Аб сваей поэтыцкай творчасьці сталяр-поэт так кажа:

«Часамі праца ўдзень кіпіць,—
Цярплю і я прыгон—
Аж косьць аб косьць ў плячу рыпіць...
Пачуеш ў сэрцы звон...
Ухопіш зык, за ім—другі,
За тымі больш ідуць,
Зьліцоцца ў шых даўгі-даўгі
І цэлы дзень гудуць.
Загасьне дзень, іду дамоў,
Кладуся спаць, і ўноч
Цякуць радкі зьвінючых слоў
І сон адходзіць проч.
Тагды пішу»...



1) Я. Лесік, і 2) Алесь Гарун зьнятыя у Сыбіры на пасяленьні, у Бадайбо Якуцкай обласьці, у 1914 г. Там А. Гарун служыў дазорцам (вартаўнічым) на залатых капальнях Ленскага Залатапрамысловага Т-ва, адкуль у 1917 г. у жніўні вярнуўся у Менск, на бацькаўшчыну.

Меў і ён гаротную долю большасьці беларускіх поэтаў: заняты цэлы дзень мазольнай працай, ён краў час для сваей творчасьці ў сну й адпачынку й пісаў урыўкамі. І як большасьць беларускіх поэтаў, ён за короткія хвілі сваей творчасьці плаціў цэлымі гадамі жыцьця й зрабіўся ахвярай сухот. Але ці хто колечы з беларускіх поэтаў эры адраджэньня лічыўся з сваім жыцьцём і сваім добрабытам?—ня лічыўся з гэтым і нябошчык Алесь Гарун. І ня гледзячы на цяжкія варункі

жыцьця ў Сыбіры, ён з самага пачатку друкаваньня газ. „Нашае Ніве“ ў Вільні даваў туды свае вершы, ў якіх пышыць агонь закаханьня да няшчаснай, далёкай бацькаўшчыны, да пакрыўджанага нявольніка-мужыка.

Ужо пасьля рэвалюцыі 1917 г. ў Менску ў 1918 г. вышаў яго зборнік вершаў: «Матчын дар» (думы й песьні, пісаныя ад 1907 да 1914 г.). Потым у 1920 г. вышаў яго другі зборнік драматычных твораў для дзяцей: «Жывыя казкі».

Уся поэзія Гаруна пранікнута кволай і дэлікатнай лірыкай, сумам-тугой па далёкай бацькаўшчыне.

Поэт марыць аб бацькаўшчыне:

„Як надарыцца мінута,
Што ад працы адарвуся,
І жыцьцёвая атрута
Не пячэ і прахаплюся,
Ды цябе, мой Родны Краю,
Шчырай думкай аблятаю“.
Або:
«Часам я ўночы сны дзіўныя бачу:
Роіцца нейкі нязьведаны край.
Повен то шчасьця, то жаласьці, плачу,
То зло-хмурлівы, то сьветлы, як рай.
Бачу вялікія стэпы з-над Нёмна;
Туліць у сьлёзах матуля сынка;
Сьцелецца пушча глухая і цёмна;
Косьці з магілы глядзяць бедака»...

Абразкі яго засмучоныя, акропленыя болем змучанай, пакутнай душы.

Гэтакі тон яго досыць часта паўтараецца. І ня дзіва,—бо Сыбір, няволя гняце яго душу й падламывае скрыдлы:

„На чужой старонацы
Занявпаў душой
І згубіў здароў'ейка,
І згубіў спакой...“

Але ў гэтым смутку чуецца часам магутнасьць і размах. Клічам надзвычайнай сілы й пекнай формай аддаюць яго песьні тады, калі ён гаворыць аб адраджэньні краю, аб роднай мове:

„Гэй, ты маці—родна мова,
Гэй, ты, звон вялікі, слова,
Звон магучы,
Звон блыскучы,
З срэбра літы,
З злота зьбіты,
Загрымі ты,
Загрымі!“

Ня гледзячы на нявольнае жыцьцё на чужыне, на пастаянныя мары-лятуценьні аб бацькаўшчыне далёкай,—поэт часта ў забыцьці захопліваецца акружаючай яго прыродай суровай Сыбіры, дзе самабытнае характво дышыць шырынёй і веліччу. Поэт—у палоне тайгі й сьнягоў. Чуецца ў яго магутнасьць, рытмічныя акорды чароўнай музыкі й багатая форма:

«Сьнягі, ляды,
Абрус жуды,
На заўсягды,
На вечны час
Ляглі.
Гара, скала
Наўкол лягла
І узрасла
Паўскрайны пас
Зямлі...» і г. д.

Але гэткія хвілі здаровага шчасьця мала чуюцца ў яго поэзіі. Пяўцом сыбірскіх абшарынаў поэт зрабіцца ня мог. У той час, калі расейскія поэты, Пушкін і Лермантаў, быўшы ў выгнаньні на Каўказе, яны там абшырна й добра жылі: ім здабываць сабе куска хлеба ня трэба было і ў іх гэтае прабываньне на Каўказе было прыемнай экскурсыей, так што ім лёгка было аддавацца чарам Каўказкай прыроды й тварыць свае каўказкія поэмы, песьні й лягэнды.

Ня так жылося Гаруну ў Сыбіры. Апрача таго нябошчык так быў захоплены беларускім адраджэньнем, што мог думаць толькі аб роднай зямельцы. Гэта ў яго даходзіла да хваравітай упартасьці яшчэ дзеля таго, што ён быў пэўны ў тым, што ніколі ня вернецца з Сыбірскіх сьнягоў у родны край. Ад вялікай роспачы, з прычын сваей жыцьцёвой трагэдыі, ён дайшоў у сваёй творчасьці да мэсыянства, да чулай рамантыкі роднай зямлі, да народніцтва васьмідзесятнікаў. Ён пачынае апрацовываць беларускія народныя казкі й лягэнды („Канец Паўлючонка“, „Шчасьце Мацея“ й інш.).

Вельмі ўдала выйшла ў яго засьцянковая аповесьць „Варажба“, дзе відаць мастацкі стыль і вытрывалася тону. Малюнак выйшаў выразны й тыпічны. Апрача вершаў ёсьць у Гаруна спробы добрай прозы („Пееро і Коломбіна“ і інш.). Ён меў вялікі нахіл да апавяданьняў, але усё гаварыў, што яму часу няма пісаць.

І праўда, як толькі ён прыехаў з Сыбіры ў Менск, дык на яго навалілі шмат грамадзянскай і палітычнай працы, якая, можна сказаць, і даканала яго зусім. Ужо апошні год ён бадай ня выходзіў з сваей кватэры. Яго „Жывыя казкі“ яму прыходзілася пісаць лежучы ў пасьцелі, бо сядзець яму было цяжка. Блізка стоячым да яго беларускім дзеячам чуць удалося ўгаварыць поэта кінуць працу і выехаць на лекі за граніцу.

І вось няшчасны беларускі поэт памёр на чужыне ў восень 1920 г. Гэтак скончылася сумная аповесьць аднаго з найлепшых беларускіх поэтаў, які змагаўся ўсё сваё жыцьцё за лепшую долю, за волю роднай зямлі.

І новай страніцай узбагацілася жалобная летапісь беларускіх маладых адраджэнцаў, якія без пары пайшлі ў нябыт. Але той фундамант, які яны палажылі для адбудовы краю, ніколі ня згіне.

**З. Бядуля.**

---

# З пасьмертных твораў Алеся Гаруна.

## Бажаньне.

Не прашу я, Божухна, скарбамі ўладаці,—
Дай мне толькі сілы зарабляць, каб жыць,
Каб і ўдзень, як прыдзе мне душу аддаці,
Хлеб я свой штодзенны працай мог здабыць.
Не прашу я, Божухна, тваёго сьвету знаці—
Усе пачаткі, зьмены і канцы, і рух.—
Дай адно людзкую праўду мне паняці
І яе быць верным, найпадданьшым з слуг.
І усё тут, Божухна, чым патурбаваці
Я хачу сягоньня, просячы цябе:
Дай мне праўду знаці і ў людзях спаўняці,
І заўсёды з працы хлеб свой мець сабе.

Барка на Лене. 1914 г.

## Песьня капачоў. *)

У цяжкай працы мы жывём,
Спачынку мы ня знаем,
Ядзім нясмачна, горка п'ём,
А што за гэта маем?
Пагарду тых, каму ідуць
Работы нашай плёны,
Што нашай працаю жывуць
Успаёны і ўскармлёны.
Руку нам грэбуюць падаць:
Ім простасьць разіць вочы,
Душы ня хочуць ў нас прызнаць,
Бо мы—народ рабочы.
Глядзяць на нас, як на сваіх
Валоў нямых, бязслоўных:
Працуй, працуй ды слухай іх,
Тваіх паноў знароўных.
Сваей ня важся воляй жыць,
Стлумі свой розум просты:
Парадкі іхнія судзіць,
На гэта,—не дарос ты!
З дзяцінных дзён, аж да труны
Цярплівасьці нас вучаць,
Спрабуй ня слухаць іх—яны
Бяз літасьці замучаць.
У адно зьмяшаны з быдлём,
Мы так жылі ад веку,
Аднак, мы хутка зажывём
Як сьледна чалавеку.
Панамі ў сьвеце будзем мы
I свой лад пастановім,—
Насталім толькі ўсе ламы
I дзюбы кайл **) падновім!

Прыіск «Прокопьевскій». Зіма 1915 г.

*) „Капачамі“ называюцца на залатых прыісках людзі, каторыя не працуючы, як іншыя работнікі, ад гаспадара, ці працуючы толькі для віду, займаюцца дабычай золата на сваю руку з старых шахтаў, пакінутых пяскоў і г. д., што забараняецца як гаспадарамі, так і горнай паліцыей. Гэта сьмелыя, адважныя, спрытныя людзі, часта багатыя, працуючыя толькі дзеля мілаваньня капацтва, з вялікай асабістай амбіцыей і з асабліва гостра-крытычным стасункам да сучаснай соцыяльнай няроўнасьці. (*Аўтор*).

**) Кайла—начыньне накшталт аднадзюбага малатка, катрым рудакопы выкалупываюць і выбіваюць з зямлі патрэбны ім пляст пяску з цяжкаю рудой, каменым вуглем, залатым пяском і г. д. (*Аўтор*).

## Відзеньне.

### *(З гадоў нядолі).*

Ідзець яна адна з адкрытай галавой,
Рызман расхрыстаны, вісіць падзёрты на грудзях,
З вачэй яе глядзяць, прыймглёныя сьлязой,
Сардэчны боль нязьмераны, а з'ім базглузды страх.
Праходзіць шлях яе між пушчаў і лясоў,
Засьмечаны карчамі скрозь, і дрэў сухім вяцьцём,
З тых пушч ўсьцяж чуюцца мільёны галасоў,
Якія гоняцца за ёй з праклёнамі, з выцьцём.
А дзе-ж яе сям'я? Дзе крэўныя, сыны?
Куды усе падзеліся? Хапя-б хто дапамог?
—Пакрыўдзіў род ліхі і здрадзілі адны
З дзяцей. Другіх забраўшы, зноў ёй крыўду справіў Бог.
Куды-ж яна ідзець сірочаю ступой,
Ці ведае куды той шлях, якім ідзець, ляжыць?
О, не! яна ідзець, бо мусіць хоць сьляпой,
Хаця-бы вобмацкам ісьці, каб толькі жыць, каб жыць!

Восень 1918 г. **Алесь Гарун.**

# На хаўтурох.

У вясковай маладзіцы Ганны памёр маленькі хлопчык. Каб-жа дужа маленькі, дык ня так-бы сумавала Ганна, а то—гадавалы: шэсьць гадоў яму было.

Першае іх дзіцянё яшчэ раней памёрла. Зусім маленькае было. Дык то нічога—гора каліс: цяпер стала паўгора, а ўжо што Васічка памёр, дык таго бацька й маці не забудуць ніколі, бо частка душы ў іх адарвалася з ім разам. Бацька, як у ваду апушчаны, пашоў зрабіць трунку, а матка асталася, як без галавы.

— Няма майго Васічкі... Было ў мяне два вочкі, адно вырвалі—дык як сьляпая хаджу.

Гэтак жалілася яна суседкам, плачучы.

А суседкі—і старыя і маладыя—сабраліся ўсьцешыць маладуху, якая вачэй плачучых ня зводзіла з хлопчыка, што ляжаў на покуце, апрануты ў белую сукенку.

І здаваўся ён матцы анёлам, што на неба ўзялі з гэтае грэшнае зямлі.

А суседкі дык мала гору памагалі, а больш рэзалі яе сэрца сваім спачуваньнем.

— Трэба-ж яму памерці гэткаму маленькаму—казала маладусе цётка Кацярына, выціраючы хустачкай вочы.

— Я-ж думала, што ён табе будзе падмога на старасьць,—жаласьліва казала Грыпіна.

— Так. Значыцца ўжо яму на раду напісана было памерці ў маленцтве,—пакіўваючы галавой, цягнула Матрона.

I бабулька „Аўдуля“, як яе клікалі, ўвайшоўшы, перажагналася, ўкленчыла ды падыйшла да покута.

— Добры быў хлопчык,—кажа,—але што-ж рабіць? Плачам гэтаму не паможаш. Памёр ды і ўсё й нічога ня зробіш!.

Як-то гэтыя словы было слухаць матцы? Ей здавалася, што й сьвет стаў ня мілы... Пастыла стала жыць на сьвеце.

Але кабетам, што сабраліся, доўга не мажліва было сумаваць. Трохі-па-трохі—„зю-зю-зю“ ды „зю-зю-зю“, разьзюкаліся кабеты пра тое ды пра сёе, наогул пра свае хатнія справы.

Ціха казалі. А тады пачалі й аб прыкметах казаць.

— Але я ведала, што будзе нябошчык, бо прыкмета была такая,—сказала Кацярына.

— Скажы-ж, якая?

— А вось якая: калі я ўчора выйшла з хаты ды й зірні на гэтую хату й бачу, аж сядзіць на коміне сава й вачмі бліскае, ў комін гледзячы.

—А-а! Скажы-ты на міласьць!

— Гэта ўжо напэўна,—адказала Аўдуля: калі яна, паганая, сядзіць на хаце, то ўжо нябошчык будзе.

— I ў мяне была прыкмета,—ўздыхнула Грыпіна: перад тым, як мужык мой памёр, дык на тым тыдні забіла я дзьвярыма курыцу, дык Ляксей пасьля таго й памёр.

— А ці помніце, як было ў маей хаце? Птушка ўляцела ў вадно вакно, а ў другое выляцела. Тады мая маці занядужыўшы ляжала, дык хутка апасьля таго й памёрла.

— Ды й што казаць,—ціханька кажа Мар'я:— я, бывала, як дам свайму сабаку палкай, дык ён як завые, ды ўсё верне морду да Ганьнінай хаты.

Скрыпнулі дзьверы. Паважна ўвайшла старэнькая бабулька.

Перажагналася, пакланілася й ня гледзячы ні на кога, зьвярнулася да Ганны.

— Зараз трунка будзе. Піліп канчае... А я табе прынесла, што трэба.

Бабулька пачала разьвязвацьванзэлачак.

Усе пасунуліся к бабульцы. А яна, вынімаючы з ванзэлачка рэчы, якія ў ём былі, сур'ёзна казала:

— Во гэта абразочак. З Кіеву прывезла. Палажы ў рукі нябошчыку. А гэта...

Бабулька разьвярнула паперачку, й усе ўбачылі пляшачку з вадой.

— Гэта сьвятая вадзіца. Прывёз страньнік... Зачэрпнуў у Ердане. Трэба пакрапіць трунку.

Бабулька разьвярнула другую паперачку, і ўсе ўбачылі маленькія кавалачкі якогась дрэва, чорныя, як зямля.

— А гэта стружкі з самага крыжа Хрыстовага.

Перажагналася бабулька. Усе зацікавіліся.

— Трэба кінуць некалькі стружачак у кадзільніцу. Шмат грахоў даруецца.

— Каму там даруецца? Ен-жа дзяцёнак, як анел,—адказала Аўдуля.

— Не яму, дык бацьку; ня бацьку, дык матцы.

Бабулька разьвярнула апошнюю паперачку.

— А што-ж гэта?—запытала Аўдуля.

— А гэта пясочак з самага Ерусаліму,—паважна адказала бабуля.

— Як пасыплеш, дык ніколі ня згніець.

— Як-та ня згніець?—запытала некалькі галасоў зьдзіўленна.

— Але, будзе, як цяпер.

— Дык гэта як усякага пасыплеш, дык і ня згіне?

— Але, мілая, але, будзе як жывы ляжаць.

Гэтыя словы выслухалі недаверчыва.

— Гэта, мусіць, брэшаш,—з усьмешкай адказала Аўдуля,—як-та можна, каб чалавек ня згні.

— Па гэтаму выходзе, што як пасыплеш, дык хоць будзе злодзей, а з яго мошчы выйдуць, і будзе ён сьвяты.

Але бабулька стаяла на сваём першым слове.

— Нічога вы ня хочаце сьцяміць. Хто-ж злодзея будзе пасыпаць сьвятым пяском?

— Як папросяць, дык і пасыпляць,—усьмяхнулася Аўдуля.

Бабулька трохі зазлавалася. З агідаю адказала:

— А й дзе ён такога пясочку знойдзе?

— А ты памрэш, дык напэўна цябе абсыпляць, дык мошчы будуць.

Нагэтае слова Аўдулькіна ўсе йзноў усьмяхнуліся.

— Ня ў гэты час жартаваць! У гэткім мейсцы і ў такі час жартуеце!

І бабулька адыйшла ў другі бок з сваім ванзэлачкам.

Увайшоў малады бацька нябошчыка. Пад пахай ён нёс маленькую труну. Мэтка, убачыўшы яго, загаласіла ў ва ўвесь голас і пачала прычытаць. Усе змоўклі. Суседкі спачуваючы глядзелі на бацьку й матку, якія павінны былі пахаваць сваё дзіця.

**В. Бруевіч.**

# Памяці Алеся Гаруна.

## Живыя акорды.

Спакойна сьпі, пясьняр, далёка на чужыне...
На што пакінаў край, які быў сэрцу міл?
Ці можа ты хацеў, каб на палёх краіны
Стаяла менш крыжоў і менш было магіл?..

* * *

Кахаў ты родны край, дзе цемра, зьдзек пануе;
З народам плакаў ты, як лепшы яго сын...
Цяпер ты замаўчаў... А ўсё-ж акорды чуе
Гаротны люд... Ня змоўк іх дзіўны гымн.

* * *

У акордах чуюцца ўсё сумныя напевы:
Адбітак тваіх дум—ў іх можна угадаць,
Шмат жальбы ў іх чуваць, і радасьці, і гневу,
І звоны ланцугоў нявольніка чуваць.

* * *

Ты сьпевам разбудзіў народ свой на прадвесьні,
Якому на аўтар свой дыямэнт прынёс...
Ямчэ акорд ня змоўк тваей прыгожай песьні,
Хоць струны абарваў жыцьця паганы лёс.

* * *

Лье сьлёзы па табе народ і гай і поле
І верацъ у прамень, які ты ўсім паслаў...
Акорды будуць жыць—твой дар, паэт—на волі,
А з імі будзе жыць, хто плакаў і стагнаў...

**М. Чарот.**

* * *

## Ахвярую Алесю Гаруну.

У чужацкі край, дзе лёд і сьнег,
За волю бацькаўшчыны мілай
На ганьбу цяжкую і зьдзек
Я быў пасланы царскай сілай.*
І хоць тады ў путох сядзеў,
Душою ў Беларусь ляцеў.
Там на чужыне, сярод гор,
Дзе крушні шэрыя ляжалі,
Усё наша вёска, родны бор
Перад вачмі маймі стаялі.
Прыжаць да сэрца-б іх хацеў,
Ды я ня мог—ў турме сядзеў.
Прайшлі гады... Я зноў прыйшоў
З Сыбіру ў родную краіну;
Шукаў тут волі—не знайшоў,
Даўно і сьлед яе загінуў.
І ў Беларусі гаспадар
Цяпер: турма, ланцуг, жандар. *)

**Серга.**

Менск, 21/1—20 г.

*) Верш гэты напісаны у часе польскай акупацыі. (Рэд.).

# Кавалю.

Куй, каваль! Зялеза гнецца...
Іскры хай лятуць далёка,
Хай стук молата нясецца,
Сэрцы ранячы глыбока.
Хай твой стук народ пачуе
І прачнецца, як адзін...
Працы боль і ён адчуе...
Куй мацней ты: «бом!» ды «дзін!»
К табе прыдуць на ўспамогу,
Нібы вырастуць з зямлі,
Бо ў жыцьці кладуць дарогу
Людзкай долі кавалі.
Куй, каваль! Няхай прачнецца,
Хто йшчэ сьпіць чароўным сном, —
Да іх хутка данясецца
Песьня молата:.. «дзін!» «бом!»

**М. Чарот.**

20/VIII—20 г.



**Вёска у Мазыршчыне, крытая драніцамі.**

# Дзіўная заява.

*(Апавяданьне).*

I.

Здарылася гэта ў Пятроўку. Была нядзеля. Сонца пачало пячы з самага раньня. Уся вёска нацягнулася ў цэркаў.

Стары Апанас Гарбуз хаця і лічыў сябе набожным, але ў цэркаў хадзіў рэдка. Ён больш маліўся дома дзеля таго, што не далюбліваў папоў. «Гаворадь у цэркаўцы адно, а робяць зусім другое»,—адказываў ён, калі яго пыталі, чаму ня любіць папоў.

Сягоньня, як заўсёды у сьвятую нядзельку, пад'еўшы добра бліноў з верашчакаю й вычысьціўшы міску беленай задіркі, Гарбуз вышаў у садок, сеў на лаўцы пад кустом агрэсту й стаў пазіраць на свой агарод. Ён вельмі дзівіўся, што ня гледзячы на сухую вясну, варыва на градах «шалела».

— Вось толькі агуркі трохі занялалі, мусіць апошняя сьпека пашкодзіла,—прагаварыў ён сам сабе й пагладзіў рукою па жываце, які ўжо й з верху стаў награвацца ад сонца.

У гэты час сусед Мікола Шклянка, йдучы з поля, убачыў, што ў яго агародзе рыецца Гарбузова сьвіньня.

Шклянка быў чалавек сярдзіты. Гэта можна было угадаць па тым, што ён заўсёды кусаў свае «каціныя» вусы й жаваў канец барады. Ён мог ні зашто ні прашто навалiцца на чалавека, аблаяць яго апошнімі славамі, пасьля прасіць прабачэньня і ў канцы зноў пачынаць лаяць.

Убачыўшы чужую сьвіньню, Шклянка ўхапіў здаравенны калок каля загарадак і стаў ганяцца за ёю. Сьвіньня кінулася ў вароты, але там наткнулася на Лыску, якога жонка Шклянкі ўсьпела выпусьціць з хаты, пачуўшы голас гаспадара.

— Лыска, кусі! Каб яе ваўкі задавілі!—крычаў нечалавечым толасам Шклянка.

Сьвіньня, ня бачачы ратунку, рынулася у плот, каб выскачыць у свой агарод, але плот быў моцны й яна, прасадзіушы галаву, ніяк не магла выцягнуць другой палавіны сваей асобы.

Шклянка гэтым часам падбег да яе й так апіразаў калом па сьпіне, што яна з болю заглушыла піскам усю вёску.

У гэту хвіліну Гарбуз як раз ганяў з лысіны мух. Ён хацеў нешта на іх казаць, але пачуўшы такі піск, так і застаўся з расчыненым ротам...

— Божухна!—закрычаў апамятаўшыся Гарбуз, —ці не маю Перапалосую хто пачаставаў!

З апошнімі славамі ён пабег на месца крыку.

Сьвіньня так і засталася ляжаць у плоце, а Шклянка стаяў з калом у руках і з пераляку ня ведаў што рабіць.

Пабачыўшы Гарбуза. ён хацеў кінуць кол у крапіву, але Гарбуз закрычаў:

— Стой! Стой, каб цябе пярун забіў! Што гэта ты зрабіў? Апошнюю сьвінку...

— А навошта пускаеш у чужыя грады? Для тваей сьвіньні сеяў, ці што? Лысая падла!—адказаў Шклянка й пашоў на свой двор.

— Дык ты думаеш гэтым усё й скончыцца?—крычаў у сьлед яму Гарбуз,—я гэтага не дарую! Яшчэ ёсьць валасьць, суд!..

Пачуўшы гэты крык, Гарбузіха кінула паліць у печы й выскачыла з чапялою ў руках, забыўшыся, што на гаршкох дапякаўся апошні блін.

Яна, ўведаўшы ў чым справа й пабачыўшы, што Шлянка з жонкаю раяцца на сваім двары, выбегла на вуліцу і пачала крычаць і клясьці іх на чым Божы сьвет стаіць.

— Недавярак! Арыштант! Злодзей! Гэта табе не каноплі Васілёвы цягаць з падсьвіронку!.. Каб ты да сьв. Пятра не дажыў! Каб ты гэтак поўзаў жыватом, як мая сьвінка поўзае!..

— Годзе! годзе ўжо!—сутрымліваў яе Гарбуз, —пашавуй сьвятой нядзелькі.

На гэты крык выскачыла на вуліцу Домна, кума Гарбузіхі. Яна не разьбірала хто і ў чым вінаваты, а зразу навалілася на жонку Шклянкі й пачала яе лаяць.

— Добра, добра ведаю, што ты за штучка!— крычала Домна.

— А ты ня сунь носа, куды ня трэба! Ты нічога ня бачыла!—агрызнулася жонка Шлянкі.

— Што?!—мацней закрычала Домна,—ты яшчэ агрызацца ўздумала? Ня бач ты сьвету, калі я ня бачыла, як твой «ваўкалака» (Шклянку, за яго сярдзіты від, у вёсцы звалі «ваўкалакам»)... як твой «ваўкалака...»,—прагаварыла яна яшчэ раз, але далей ня ведала, што казаць, бо ня ведала за што сварацца. Сваю гутарку Домна кончыла тым, што павярнулася задам... і пабегла да Гарбузоў, каб распытаць, што такое здарылася.

Хутка Гарбузы пакаціліся на свой двор; толькі людзі, якія зьбегліся на гэты лямант, гутарылі паміж сабою, хто больш вінен. Як трэ' было й чакаць, большасьць вінавaціла Шклянку.

Кончыўся ўвесь гэты кірмаш тым, што стары Сьцяпан, выкурыўшы тры люлькі чужога тытуну, сказаў:

— Што нам да іх? Няхай самі разьбяруць, хто больш вінен і пагодзяцца, а нам час разыйсьціся... Толькі дай, Сымон, яшчэ на люльку тытуну.

— Закурывайце, мужчыны!—адазваўся Сымон, выняўшы з запазухі вялікі капшук з тытуном.

Усе закурылі й разыйшліся.

II.

Прайшло некалькі дзён. У валасьці адбываліся суды. Сходавая была перапоўнена сялянамі. Адны з іх былі заклiканы павесткамі, а другія прышлі проста так, каб пачуць навіны. Хаця яны паміж сабою гутарылі й «ціхінька», але часам падымаўся такі гвалт, што прымушаў высовываць галаву аднаго з судзьдзяў з пакою, дзе разьбіраліся справы, й крычаць па ўсё горла:

— Мужчыны ня крычэце! Бо старшыня вон павыганяе!.. I што за народ!..—I галава гэта зноў зьнікала.

Ад дыму ў сходавай нікога ня было відаць, калі ўкаціўся ў яе Гарбуз, трымаючы ў руках некую паперу.

— А, браточкі мае! Вось накурылі, й бацькі роднага не распазнаў-бы,—забурчаў пад нос Гарбуз і стаў працiскацца да тых дзьвярэй, якія вялі да пана старшыні.

Дзьверы гэтыя ён ведаў добра, бо ня раз прыходзілася іх адчыняць. Толькі ён дацiснуўся да іх, пацягнуў за клямку, як зараз нехта закрычаў:

— Куды не ў чаргу прэшся! Паклічуць, як будзе пара!..

Але Гарбуз на гэта не зьвярнуў увагі: ён ведаў, што яго не паклічуць, бо заявы аб яго справе там ня было,—ён трымаў яе ў руках.

Пастаяўшы трошкі ля дзьвярэй, Гарбуз першым увыйшоў у канцылярыю, як толькі адтуль вышла якаясь баба, ўся чырвоная, як рак печаны. Нічога ня кажучы, ён падышоў да стала й палажыў сваю паперу пад самы нос старшыні.

— А ты чаго не ў чаргу?—пачаў было старшыня, але спазнаўшы Гарбуза, таго самага Гарбуза, з якім пару дзён назад выпіваў у Залмана, ён дабавіў:

— Хіба такая пільная справа?

— Вельмі пільная, паночку! Калі ласка, каб зараз і разабраць... Буду вельмі дзякаваць і як кончыцца суд...

Але старшыня ня даў яму дагаварыць, а сказаў, каб вышаў у сходавую й пачакаў пакуль будуць разглядаць гэту паперу. Гарбуз вышаў.

Дзеля таго, што старшыня быў ня граматны, то ён адразу гэту паперу падсунуў да пісара й запытаў:

— Аб чым там?

Пісар глянуў на паперу, расхінуў яе й зьдзіўлена стаў ківаць плячамі. На паперы нічога ня было напісана, але нешта было намалёвана.

— Нічога я тут не разьбяру!—сказаў пісар,—разьбірайце яе самі. Гэты чалавек, мусіць звар'яцеў: падаў не заяву, а чорт ведае што! I чаго толькі не пачуеш і не пабачыш ад гэтых паганых мужыкоў! Ох, ох!— і стаў пісаць далей, перадаўшы яе старшыню. Старшыня доўга круціў яе ў руках, нават пад сьвятло палядзеў, але каб зразумець што, дык нічога. Усе судзьдзі папарадку разглядзелі й ніхто нічога ня мог паняць.

— Я восьмы год судзьдзёю, але яшчэ такой заявы ня бачыў,—загаварыў адзін судзьдзя, які да таго быў пьяны, што сеў у куточку паміж дзьвух сьцен, каб толькі пахіснуўшыся не паляцець на падлогу.

Вы ня дзівіцеся, што судзьдзя быў пьяны. Тут усе судзьдзі былі пьянымі, а так-сама й старшыня й пісар. Бо суды пачуліся ўжо трэці дзень, а пасьля кождай разабранай справы, якбы яна не канчалася, на чыім бы баку ня была праўда, ім усім прыходзілася ўставаць з крэслаў, ісьці ў пакой, які ад'значаўся для судоў, калі прыежджаў земскі начальнік, і там выпіваць некалькі бутэлек гарэлкі. Але ня гледзячы на тое, што былі ўсе п'яныя, яны рабілі сваё й судзілі так, як на гэта паказуе «стацьцё», якая ўжо даўно стаяла ў вышэй сказаным пакоі. Яны думалі, што з такою самаю «стацьцёю» прышоў і Гарбуз, дзеля чаго «дзела» яго «безпаследствія» астаўляць ня можна было.

— Пазваць яго сюды!—закрычаў старшыня.—За каго ён нас лічыць, падаваць заместа заявы чорт ведае што!..

Зараз зьявіўся Гарбуз.

— Ты гэта што? Сьмяяцца ўздумаў над начальствам,—закрычаў зноў старшыня й націснуў слова «начальствам».

— Барані Божа, паночку!—нясьмела загаварыў Гарбуз.

— Ды што гэта?—запытаў пісар, паказуючы на яго паперу.

— Гэта... гэта заява, каб вы разабралі маю справу з суседам Шлянкам.

— Ці-ж тут што-небудзь напісана?—загаварыў пісар мацней, коса паглядаючы на Гарбуза.

— А ці-ж вы, паночкі, ня граматныя, што пытаеце мяне?

— Дурань! З канцыляры! паганю!—закрычаў старшыня й высмаркаўся ў кулак,—хто гэта табе напісаў?

— Там не напісана, пане старшыня, а намалёвана,—папрaвіў пісар, які быў цьверазейшы за ўсіх.

— Гэта мне Юрка Арцёмаў напісаў, бо сам я, як ведама, няграматны...

— А ён граматны... Юрка той?—запытаў адзін судзьдзя...

— Так-сама не, але за залатоўку ўзяўся напісаць... Ен казаў, што ў судзе разьбяруць, хоць трохі галавы й паломяць.

— Каб ён сабе ногі паламаў,—прабарматаў п'яны судзьдзя, седзячы ў кутку.

— Бачыце, мае паночкі,—казаў далей Гарбуз,—усё сяло абышоў, нікога граматнага не знашоў. Андрэй Базылёў умее пісаць, але ён некі пляменьнік Шклянкі, дык ні за якія грошы няўзяўся напісаць заявы на свайго дзядзьку... Думаў ужо й ня судзіцца, але, дзякуй яму, Юрка зрабіў ласку, напісаў...

— Вось каб яго палажыў на лаўку, ды дубцамі сьпісаў, каб дзьве нядзелі сядзець ня мог, ведаў бы як пісаць!—сярдзіта прабасіў судзьдзя, які ўжо даўно меціў у старшыні й заўсёды стараўся актаваю піжэй гаварыць за другіх судзьдзяў.

— Дык ты растлумач, што ўсё гэты малюнак азначае... Людзі... сьвіньня і ўсё такое...—запытаў зноў старшыня,—што гэта такое?

— Гэта й ёсьць тая самая заява, што Юрка пісаў...

— Цьфу! Сьвінячая морда!—гукнуў старшыня і плюнуў як раз на пісараў камаш, але той якбы ненарокам выцер яго аб крысу сьвіты судзьдзі, які сядзеў радам з ім.—Растлумач нам, у чым справа? Чуеш?! А то!..

— Гэта ўсё аб сьвіньні, што сусед Шклянка забіў,—пачаў гаварыць Гарбуз, а пра сябе думаў, што й тут усе няграматныя!...

— Ну, дык як далей? Кажы, кажы!..

— Вось я й кажу,—тлумачыў ім Гарбуз,—тут аб усім напісана. Вось гэты чалавек, што з калом у руках, гэта мой сусед Мікола, а шклянка намалёвана—гэта яго прозьвішча. А гэта плот... і вось тая самая дзірка, кудою сьвіньня лезла... Вось гэта самая сьвіньня, што тут намалёвана й ёсьць мая Перапалосая, якую сусед і забіў у гэтай дзірцы, што вы бачыце й вось гэтым калом, што ў руках трымае... А ў нізе бачыце намалёваны чалавек,—гэта я сам—Апанас, а каля мяне гарбуз намазаны—гэта маё прозьвішча Гарбуз...

— Значыцца, й тут ня пісьменныя,—падумаў услух Гарбуз і цяжка ўздыхнуў. Усе ўвесь час сядзелі з расчыненымі губамі, а як Гарбуз кончыў тлумачыць, разам сказалі:

— Разумеем!.. Вось яно што!..

— Як-жа будзе? Апошнюю сьвінку...

— Добра! добра!—пачаў старшыня,—мы пасьля разьбяром гэту справу й адповедзь дадзім... Павестку пашлём...

— Але дзіўная твая заява!—у адзін голас загаварылі:—відаць, што няграматны пісаў,—дабавіў пісар і сунуў гэту паперу пад сукно...

— Альбо няграматныя чыталі,—падумаў Гарбуз і пакланіўшыся да пояса, вышаў з канцалярыі.

Ідучы дамоў, ён увесь час думаў: „Хто граматнейшы: ці Юрка, што гэту заяву пісаў, ці судзьдзі, што не маглі яе прачытаць?

Ужо пачынала зьмяркацца, калі Гарбуз узышоў на двор. Першая яго спаткала жонка, якой ён і стаў разсказываць, як было ў судзе.

**М. Кудзелька.**

# Зьбянтэжаны Саука.

*Жарт.*

**Асобы:** Саўка, Магрэта, Жабрак.

*Рэч адбываецца у сялянскай хаце.*

ЗЬЯВА І.

Саўка *(уходзіць)*. Жонка!

Магрэта. Я.

Саўка *(грамчэй)*. Магрэта!

Магрэта *(цішэй)*. Тутачкі яна.

Саўка *(яшчэ грамчэй)*. Чарвіва качарыжка!

Магрэта *(яшчэ цішэй)*. Лісткам перад табой, пакорна, як цялё.

Саўка. Вух, каб цябе маланка, рэся-разанка!.. Ты чаму мне палудняваць ня прынесла? Іншыя ратаі дык і паспаць ужо здалелі, бо маюць жонак, а ня гэткія во рэзьгіні гнілыя. Вух, як я злосны!

Магрэта. А доля-ж мая чубатая! Ды я й так ужо стараюся--усё з кута ў кут, то тое, то сёе, то туды, то сюды, адным словам—ні работа, ні аддуха. Хіба-ж я тут вінавата?!.

Саўка. Ціха, малатарня! Залапатала ўжо. Каб так рукамі завіхалася, як языком, дык муж не галадаміраваў-бы. І на што ты жывеш? вось толькі сьвет копціш. Вух!

Магрэта. Ясны дзень, будзь мне сьведкай, дух нябесны, будзь судзьдзёй! Працуеш гэта ад зары да зары, як мурашка; б'ешся, як рыба аб лёд, а яму ўсё мала, а ён хоць бы што, хоць калі...

Саўка. Бачыў Бог працу, ды ня даў мазаля. Ніякага спору, прыбытку ў тваіх руках няма. Тпру! ды но! і ўсё на адным мейсцы. А я, Саўка, ні за што, ні праз што пакутую, галадаю, гібею ў непагоду лютую там, з сахой... Вух, каб цябе маланка, рэся-разанка!

Магрэта. І ня піла-ж я, і ня ела-ж я, намаліцца не здалела, а ўсё аб табе, аб Саўку сваім думала. І за думкай тэй не здалела ахнуць, як і поўдзень прашоў...

Саўка. Чакай ты ў мяне, ахнеш, як дабяруся я да тваеі аўчынкі—ой, скудлочу, ой, зьлямцую...

Магрэта *(плачучы)*. Згінь ты, пропадам прападзі, жыцьцё гэткае катаржнае! Годзіш яму, як благой скуле, на цыпачках ходзіш перад ім, хухаеш, дзьмухаеш, а ўсё дрэнна, а ўсё ня так. Дам я табе палудняваць, дам я табе есьці, не абгрызай ты толькі маіх костачак; хай будзе ціха, як у вуху, каб людзі не сьмяяліся, сьвет не абгаварываў...

Саўка. Джа! Аві заікніся! Ані не магу я слухаць тваей зьвягі,—вось быццам тупым нажом па шкле ёрзаець. Ну, і галасок удаўся, як у парасяці, ўшчэмленага ў плоце.

Магрэта. Антыхрыст ты! Яшчэ той чалавек не радзіўся, які-б табе ўгадзіў. *(Хоча дастаць з печы яду)*.

Саўка. Цыц! Ані зварухніся, бо ў зямлю па вушы ўганю. І калі ня біта, дык і нечага хліпаць там у нос. Чуеш?!.

Магрэта. Во, залейцаў, во закелзаў, ані пікнуць, ані крануцца! Во дзе крыўда! Не магу далей трываць!.. Гіну ўжо, гіну, гіну, гіну!..

Саўка. Ціха!

Магрэта. Вох, вох, вох!..

Саўка. Гвалту, гвалту, аглухну, здурнею!.. (*Затыкае вушы*).

Магрэта. Ай, яй, яй, яй!..

Саўка (*бярэць пасьцілку й накрывае Магрэту*). Ну, калі хопіць духу, дык крычы, каб цябе маланка, рэся-разанка, крычы! Га, га, га!.. Ну, чаго-ж анямела? Вось хітра прыдумаў!.. А мо' яна ўжо й скапуцілася?! (*Зьнімае пасьцілку. Магрэта сядзіць на падлозе*). Ну, вось уціхамірылася, дык і дзякаваць Богу. Цяпер я з табой хачу аб нечым важным пагутарыць. Ты вось жальбуеш на сваю долю чубатую, што табе ў хапе вельмі дрэнна, работа заедае, ну, і ўсё такое.

Магрэта. Горш і быць ня можа. Ліхому ворагу ня жычу такой жыткі, каб на яе звод, каб на яе...

Саўка. Па-ча-ло-ся! Тра, та, та, та!.. Калі дрэнна, дык мы зробім, каб было добра. Ты пойдзеш у поле араць, а я дома гаспадарыць. Я чалавек згаворчывы. Калі табе тут у запечку непанадна сядзець, ну, дык ідзі паары пасеку, патузай саху, папацей у дванцаць потаў, дазнайся, па чым хунт ліха. Годзі вам доўгакудлым лынды біць. Усю цяжкую работу мужчына рабі, вайна--мужчына йдзі, як у мясарэзку, й сям'ю кармі, барані, й з цешчай агрызайся, а яны, баб'ё, сядзяць сабе на гатовенькім і кудахтаюць, і гэта называецца „доля чубатая". Ой, абскублю я вам гэту долю,—будзе яна лысая, як калена. Дык-жа знай, што я хачу быць бабай і канец. Вось як!

Магрэта (*устала*). Добра, саколік. Дзякаваць Богу, што ўжо скончыў... Воля твая—прыказ мне, толькі памятай, што кісель хваляць, пакаштаваўшы.

Саўка. Я ня лізун, каштаваць ня люблю, а калі ем, дык усё, да два. Ну, а ты выносься, нечага выстаўляць тут свой бабскі розум. Я больш забыўся, як ты ведаеш. (*Выпіхае Магрэту.*)

Магрэта (*праз дзьверы, а як Саука прыгразіць—схаваецца, й так колькі разоу*). Ты-ж глядзі, каб курыца не зьняцела з яек, бо яны, як астыгнуць, дык за нішто прападуць. Пасьля сьвіньням травы назьбірай, курэй пашчупай, хлеб расчыні, кароў падоіш, начыньне памыеш, варыва выпеліш, запіркі зварыш...

Саўка (*бярэць венік—прытаіўся*). Ну, а яшчэ што?

Магрэта. Бабскі атопак, курашчуп, намыйнік!..

Саўка (*замахіваецца венікам*). Я табе зараз памыю тваю патэльню. Вот ужо дакучлівае стварэньне гэтыя бабы! (*Адзін. Глядзіць праз вакно*). Цьфу, ты, напасьць! Пашла! Я думаў, яна будзе пярэчыць, ажно ад першага слова, фырт! хвост у зубы й пашла зыгуючы. А нагаварыла паўтары засекі. (*Дражнючы*). Курэй падаі, сьвіней пашчупай, начыньне расчыні, хлеб звары й каб варыва не астыгла... І яшчэ нейкую трасцу—гаручка яго ўсё ўспомніць... Эгэ-ж, гэта ўсёткі непарадак: яна заўсёды наперакор, а тут раптам... Часамі, прыкладна, хоча варыць крупнік з малаком, а я, ня любячы малака,—папрашу, каб, значыць, зварыла на сале. Дык яна, не! затопае, залапоча й давай таргавацца. І так цэлы дзень пратакаем, пранекаем—і крупніку ня зварана, й мы няеўшы. Ой, нешта тут ёсь ня добрае; трымайся, Саўка, каб не спатыкнуцца. Ну, але такой бяды, мы й самі з вусамі. Хіцер Зьміцер, але й Саўка ня дурны. Перш-на-перш папалуднаваю, бо есьці хачу, як воўк. (*Дастае з печы яду й разварачывае*). Маеш табе—напасілкаваўся!.. Цк! як смашна пахніць, хоць ты языком ліжы. Ах, каб табе ручкі ў кручкі—страву, дар Божы марнаваць. Рукі, як кавёлы, вось ужо ўсадзіў Бог душу, як у пень. Ах, каб цябе маланка, рэся-разанка! здаецца кару-б грыз, так есьці хачу. Трэба пашукаць, паветрыць па схованках—складох Магрэты, а мо' што й перападзе. (*Выходзе у клець і выносіць адтуль кадушку з салам, а на кадушцы—хлеб*). Го, го, го! Расьпяразвайся, Саўка: во, цяпер мы закусім ды пабалюем, эх, закусім! Сала й хлябок—еш, колькі душа жадае. А Магрэце скажу, што пацук з чорным катом зьелі: гэ, гэ, гэ!.. Ну, давай прыступімся... (*Жагнаецца й хоча рэзаць хлеб, але яго спыняе голас праз вакно*: «Саўка, а, Саўка! ў тваім варыве парасяты, а гарох гусі латашаць!»).

Саўка. А—яй, парасяты гусей латашаць!.. (*Выбягае. Праз якісь час уходзе жабрак*).

### ЗЬЯВА II.

Жабрак. Пахваленьі ў хату! Падарыце сьляпенькаму, бядненькаму, старэнькаму дзядочку. Не магу я працаваць, сілачкі ня маю, Бог цемрай пакараў, жыву з ласкі людзей добрых... (*Кашляе, стукае палкай, а згледзіушы сала й хлеб на стале, выцягівае шыю, нюхае, цмокае, топае на месцы*). І хочацца й колецца... Акгы! акгы! Нікога ня чуваць... Э, хто адважны, той пан важны... (*Падходзе на цыпках, хавае у торбу сала й хлеб*). Ой, нехта йдзе! (*Падцягвае торбу, да парога*). Ну, цяпер я прапаў, цяпер мне сьмерць! А слова сталося целам...

### ЗЬЯВА III.

Саўка (*уходзе*). А што табе, чалавеча, трэба?

Жабрак. Дзень добры!

Саўка. Калі табе трэба «дзень добры», дык ідзі на пана дворак і шукай там яго!

Жабрак. Ды не! Я, гэтага... не аб тое... Вось, можа ў мяне купіце сала?

Саўка. А мо' ты ў мяне купіш, бо маю яго багата?

Жабрак. Хі-хі-хі!.. Ну, дык падайце, калі ласка, й я папхнуся далей. (*Саука падае*). Толькі ад сабак правядзеце, а то яны ў вас кусьлівыя. (*Выходзяць*).

### ЗЬЯВА IV.

Саўка (*убегае*). Ой, есьці, есьці, есьці!.. А дзе яно падзелася?!. Ні хлеба, ні сала... Кусочка ня ўкусіў, а ўжо ня стала. І сабакі не брахалі, а сала ўкралі. Што за насланьнё, ці не дамавік тут прыслужыўся? Ці гэта я можа сьню? (*Шукае пад сталом, лавай, забегае у клець*). Стой, брат, ці не маё ён гэта сала прадаваў?!. Пэўне ён сьцібрыў. Пастой, я табе палічу косточкі. (*Хапае качаргу й выбягае, але хутка ворочаецца*). Зловіш яго—на сьвятое ніколі! Зловіш вецер у полі. Якраз! Ах, каб табе наскрозь прашло, каб ты апундырыўся, жывадзёр, валацуга!.. Ну, чакай, хоць на тым сьвеце, але сустрэнімся з табой, тады й палічымся. А цяпер есьці хачу, гвалт, есьці хачу! (*Шукае*). Каб мне нябесны гаспадар сказаў, што выбраць: галод-

ны рай, ці сытнае пекла, дык я не развважаючы ў пекла-б папёрся. І вось, як на ліха, нідзе нічога ніякага ня знойдзеш. (*Шукаючы, разьбівае пасудак*). Чорт вас тут панаторківаў—боўтаецся пад рукамі. Трэба ў печ злазіць, мо' там што абнюхаю. (*Лезе у печ крэкчучы, й вылазіць адтуль умазаны ў сажы*). Няма! Ох-хо-хо, галодны гаспадар добрага слова ня варт! А ўсёткі выглядае, што я выменяў з Магрэтай капя на аброць, выйграў, як той спэкулянт Заблоцкі на мыле. Трэба крыху ўпарадкаваць, а то Магрэта скажа, што зрабіў з хаты стадолу. (*Зьмятае венікам падлогу, стол, лавы й развважае*). Як мая Магрэта, дык, ма' быць, на цэлым ужо сьвеце няма такой добрай бабы,—днём з агнём шукай, ня знойдзеш ні сярод памёршых, ні сярод жывых. Да ранъ ялее прылажы, дык рана й загоіцца. Супраўды, каб была доўгая, доўгая драбіна, дык яна жыўцом на неба палезла-бы. І зрабілася бы яна там духам чыстым, сьвятой Магрэтай... Але як даведаецца гэты дух чысты, што я гэтак хітра сала запрапасьціў, вось будзе ў хаце вайна. Зьдзярэць яна жыўцом з мяне сала... Во, на зямлі крошкі валяюцца... (*Падбірае й есьць*). З боку гледзячы, дык можна падумаць, што я з голаду крошкі падбіраю, а я проста—такі, як добры гаспадар... (*Крык курыцы, Саука выбягае й крычыць за бакавінамі: „Аюсь! аюсь! А каб цябе маланка рэся-разанка! Аюсь!“ Уносіць скрынку з яйкамі*). Або! Сьвіньня чуць не паела. І пагнала-ж яе нялёгкае! Вось трэба вучыцца ад сьвіней: яны заўсёды насьвінску робяць, а мы дык ніколі палюдзку. А яйкі астыгаюць, а яйкі прападуць... Пайду лавіць курыцу. А каб яе маланка й рэся-разанка! (*Выбягае, завецъ: „Ціпачка, ціп, ціп!.. Селачка, сел, сел!.. Кўрачка, кур, кур!.. Ах, каб цябе, хай цябе і ўсе такое, каршуновы абедкі“! Убягае*). Ніяк не даецца, ані ня зымаеш, а Магрэта хай толькі адазвецца да яе, як яна прысядзе, гэтак скукярэчыцца, хоць ты яе, значыць, бяры й рэж, а ад мяне дык на гоні ўцякае. Ах, каб цябе маланка, рэся-разанка! Хіцёр Зьміцёр, але й Саука ня дурны: жыў ня буду, калі не злаўлю. (*Надзявае спадніцу*). Апукаю курыную сьлепату—яна падумае, што Магрэта, дык і скукярэчыцца. Ой, яй, яй, а тут яйкі як стыгнуць, дык стыгнуць. (*Выбягае й на хаду завязвае хустку*).

### ЗЬЯВА V.

Магрэта (*уходзіць, нясучы у торбе сала*). Во нагаспадарыў, пустадомак! Гэта-ж ня жарцікі, столькі сала ўкралі. А ў хаце што робіцца, ўсё ўверх дном паставіў. Во—бунтаўшчык, во—авантурнік, абрыда, цюхцялей! Ох, даняла-б я яму, аж язык сьвярбіць, паказала-б, дзе Макар козы пасе, бяда толькі, што й я недзе кабылу згубіла. І немач яе ведае,—раптам як напаў зык, калі паставіць гэта яна хвост дудой ды ў кусты, чуць сахі не паламала. Ой, будзе мне ад Саукі! (*Выносіць сала ў клець*).

### ЗЬЯВА VI.

Саука (*уходзіць, змучаны, з разадранай спадніцай*).

Ох, няма маей сілачкі! Замучыла, каб яе каршун... зьнямогся, зьнядужаў... Чуць, чуць не злавіў, ужо й за хвост зрапіў—трэба-ж было зачапіцца, палярушш яго ведае. Во й спадніцу разадраў і нюхаўку чуць не расквасіў. Бег за ёй, бег, каб цябе маланка й рэся-разанка, ажно бачу, мая кабыла па ўсе як шалёная круціцца, быццам сам Люцыпар на яе, ўсьсеў... А Магрэты як няма, дык няма, а яйкі ўсё стыгнуць, псуюцца, псуюцца... І трасца іх ведае, што з імі рабіць?.. Розум за розум заходзе ад неспакойства,—я мабыць і звар'яцею, і пасівею, а як прыйдзе Магрэта, дык памру, бо яна мяне заб'есь.І чым уціхамірыць мне гнеў Магрэты й што мне рабіць?.. А яйкі стыгнуць, а яйкі псуюцца. І як я бачу, дык няма іншага ратунку, як толькі сесьці на іх самому. Цьфу! да чаго дажыўся; і сьмех і грэх, і на плач забірае. (*Садзіцца*). Каб толькі яешні не зрабіць... Ну, й папаўся я з сваей, выдумкай, як таракан у саладуху, адным словам, майстар з хлеба гузікі рабіць. Вух, як я сярдзіты! Адно мяне толькі ўсьцяшае, што я радзіўся не бабай, і што разумнаму чалавеку ніколі не шанцуе, вось з дурнем, дык заўсёды Бог. Але ад гэтага мне не лягчэй. Вух, як я сярдзіты! Я цяпер ня толькі жаночую, але й курыную работу раблю—паскудная работа! Вух, як я сярдзіты!

### ЗЬЯВА VII.

Магрэта (*уходзіць з клеці, прыглядаецца да Саукі, пазнаць ня можа, жагнае яго, кажучы*). Згінь, нячыстая сіла, прападзі! Няўжо-ж гэта ён, бунтаўшчык?! Саука, ці гэта ты?

Саука. Я, Магрэтачка, я! Да душы, я!

Магрэта. Што ты тут робіш?

Саука. На яйках, жоначка сяджу, на яйках.

Магрэта. Цьфу, паскуднік! Не блазьнюк, здарціца, гэткімі жартамі займацца!

Саука (*устае*). Не да жартаў мне. Вось паглядзі... Каб не застыглі, не папсуліся. Я чалавек гаспадарны.

Магрэта (*з жахам*). Ах, ці мне! Супраўды яйкі... А ён у спадніцы, страшны, як чорт балотны... Стой, не падходзь!

Саука. Чаму, Магрэтка, клёцачка мая?

Магрэта. Стой, стой! Адыйдзіся! Звар'яцеў! Ня ўсе дома! Ай-яй-яй, не падходзь!.. (*Уцякае ад яго*). Людцы, ратунку, звар'яцеў, звар'яцеў!

Саука (*у час яе крыку*). Магрэтачка, крупаварніца мая, Няўжо-ж супраўды я звар'яцеў? А мо' ў цябе матылі запладзіліся, мо' табе кабыла ў галаву брыкнула ды мазгі на затаўку зрабіла...

Магрэта. Не варушыся, дурань, бо крычаць буду. Стой, кажу, стой!

Саука (*як стаў у нявыгоднай, сьмешнай паставе, так і затрымаўся*). Во закелзала, во арудаецъ...

Магрэта. Калі ты не звар'яцеў, дык скажы пацеры.

Саука. Ой, не скажу. Я, як радзіўся, ня знаў, дык скуль мне іх цяпер знаць.

Магрэта. А колькі табе гадоў?

Саука. Ой, не скажу. Ня было часу лічыць.

Магрэта. А як ты завешся?

Саука. Бедненькі, зьбянтэжаны Саука.

Магрэта. А па мойму—дурны Саука.

Саука. Але, але дурны Саука. Цьфу, напасьць!

Магрэта. А як твой бацька завецца?

Саука. Ой, Баўтрук, Магрэтка, Баўтрук!

Магрэта.. А жонка як?

Саука. Магрэта! Каб яе маланка, рэся-разанка!

Магрэта. Ой, ой! Чакай! Стой!

Саўка (*пяе*). Ой, Магрэтка, жонка,
Не рабі ты крыку,
Бо і так твой Саўка,
Зьбіўся з панталыку

Магрэта (*пяе*). Зачашы-ж на носе,
Што розум прыходзе
Гэткім, як ты, дурням
Па часе, па шкодзе.

Саўка. Ой, Магрэтка, жонка,
Пакінь вычварацца,
Дай цмокнемся лепш мы,
Каб з бядой ня знацца.

Магрэта. А біцца ня будзеш?

Саўка. Хай мяне лепш пярун забь'е.

Магрэта. А ці ты ведаеш, што я кабылу згубіла?

Саўка. Ведаю, мая перапечка,—ў аўсе злавіў і ў хлеў зашёр. А ты ці ведаеш, што ў мяне сала прапала?

Магрэта. Ведаю, стручок. Я шукала кабылу па кустох, а нашла сала, калі яго ўбогі за абедзьве шчокі закладаў. Як цыкнула я на яго, дык ён з перапуду й торбы адрокся й сала!

(*Обое сьмяюцца, пасьля прытопываючы пяюць*)

Гоцы, цацы, гой, цуг!
Тра-та-та-та, троп-ля!
Тылюсенькі, тылі!
Тра-та-та-та, троп-ля!

ЗАСЛОНА

Л. Родзевіч.

---

# Беларускае мастацтва.

(Нарыс д-ра Альбэрта Іппэля).

Доля Беларусі была заўсёды цяжкай. Займаючы абшар паміж морам і багнамі, яна вечна зьяўлялася тэатрам вайны. Пачынаючы з таго часу, калі ў IX сталецьці нармандзкія князі заўладалі абшарам Дрэговічаў і аж да эпохі Напалеона й апошняй сусьветнай вайны, тута, паміж Полацкам, Менскам і Кіевам, адбываліся бойкі з іх аднастайным малюнкам—пераходаў вайсковых сіл туды й сюды, з Захаду на Усход і наадварот, і звычайнымі насьледкамі вайны,—руйнаваньнем і спусташэньнем старонкі. Зразумела, што гэтае становішча не магло спагадаць захаваньню памятак старажытнасьці. Супраўды, хоць бы тое, напрыклад, што з усёй багатай здарэньнямі, гісторыі Менска за першыя 500 гадоў дайшлі да нашага часу поўнасьцю толькі дзьве зьвесткі, добра малюючыя становішча, ў якім знаходзяцца мастацкія й архіўныя памяткі Беларусі.

Аднак ёсьць яшчэ некаторыя пункты, дзе магчыма адтварыць жыцьцёвы воблік мінулай, у былым часе высокай беларускай культуры. Менская краёвая выстаўка 1918 г., асабліва паказала, што пры стараннасьці магчыма сабраць шмат памяткаў мясцовай культуры.

Неацэнны прыродны музэй Беларускай старажытнасьці, гэта—запушчаны гарадок Слуцак, к паўдня-заходу ад Менску. Розныя абставіны спагадалі захаваньню тутака мясцовай культуры. З іх найбалей значным зьяўляецца тое, што гаспадары Слуцка, князі Алелько, а затым Радзівіл, ня чынілі перашкад панаваньню праваслаўнай цэрквы.

Увагу ўсіх прыхільнікаў старажытнасьці, зьведваўшых Слуцак, зьвяртаюць тры дзераўляныя цэрквы з XV-га сталецьця. Адна з іх, Юраўская, да гэтага часу захавала свой старавечны «іконастас», аздоблены рэзьбай і абразамі мясцовых мастакоў. У сваёй прыгожай канструкцыі й жыцьцёвай гармоніі гэты «іконастас» зьяўляецца праўдзівым вянком Беларускага мастацтва.

У Слуцку можна так сама бачыць творы старажытнай Беларускай малярскай школы, якая калісь істнавала, хоць аб ёй і не гаварылася да гэтага часу ў гісторыі мастацтва. Першая зьвестка аб гэтай школе знаходзіцца ў надпісі на адным малюнку з XV ст. ў Кракоўскім саборы, дзе гаворыцца, што гэты малюнак зрабіў майстар г. Вільні па прыказу гаспадара Казіміра Ягелавіча. Цудатворны абраз Божай Маці на Вострай Браме так сама можна прызнаць творам Беларускай школы.

Апроч Слуцкіх цэркваў, вельмі добрыя абразы XVII—XVIII ст. знаходзяцца ў Магілёўскім Царкоўным музэі, гдзе, дзякуючы стараньням дырэктара Строганава, сабрана шмат цэнных памяткаў Беларускай старажытнасьці. Вельмі цікавым ва ўсіх гэтых вырабах зьяўляецца нязначны ўплыў Бізантыцкага мастацтва. Наадварот, зьвяртае ўвагу ўплыў Нямецкага мастацтва, каторае дайшло сюды, як можна думаць, праз Бальтыку. Досыць ясна выдаюць гэты ўплыў сярэбраныя рэчы. Дзьве вялікія сярэбраныя рызы ў Брацкай царкві ў Магілёве хоць у надпісі й названа імя майстара, беларуса—Ваўчка, могуць быць прызнаны Гданскімі вырабамі. Але на абразе сьв. Міхаіла ў царкоўным музэі можна бычыць проста Гданскую марку на мячы Архангела. Досыць арыгінальны стыль сярэбранага арнаманту ў Слуцкіх цэрквах: іх галоўны матыў—тульпаны й васількі. Цэнныя бармы й дыядэмы з дому Алелькаў састаўляюць акрасу вобраза Багамаці ў Слуцкім манастыры сьв. Тройцы.

Вельмі красавалася ў Беларусі мастацтва мініятур. Амулеты й нацельныя абразкі — «цэльнікі»—рабілі іх у шмат якіх мясцох, пры чым некаторыя мастакі мелі як быццам манаполію на прызначанага сьвятога.

Шмат ужывалася на Беларусі, як у высокім, так і ў нізкім мастацтве, гравюра (рэзьба), аб чым сьведчаць вельмі добрыя загалоўныя ўкрасы ў старых кнігах, асабліва ў вядомай Беларускай Біблії, а так сама вельмі мастацкія антымінсы, якія, як ведаем, граюць асаблівую роль у праваслаўнай літургії. Просты народ і да гэтага часу ўжывае гравюры пры размаляваньні хатней тканіны, так званай «крашаніны».

Яшчэ і ў другіх адносінах беларускае народнае мастацтва зьвяртае на сябе ўвагу гісторыка мастацтва,—ў якіх адносінах,—мы азначым толькі коратка. Паказаны абшар прадстаўляе сабою граніцу паміж Усходам і Заходам па Поўначы Эўропы. Стары Дняпроўскі шлях носіць на сабе апошнія сьляды ўплыву Бізантыцкага й Старагрэцкага мастацтва. Тут мы знаходзім досыць ясна асвоўныя формы грэцкага тэатру й храму ў некаторых архітэктурных дэталях. Пападаюцца, ў Рагачэўскім, напрыклад, вокрузе, сялянскія сялібы, па свайму вобліччу напамінаючыя гэльліна-рымскія вільлі. Цікавыя з гэтага боку вядомыя беларускалітоўскія крыжы. Формы, якія мы ў іх знаходзім, можна прыкмеціць у антычнай дзераўлянай архітэктуры; такім спосабам у гэтым, як і ў іншых здарэньнях, былі хрысьціянізаваны формы рэчаў паганскага культу. Так сама, добра вядомыя паясы выходзяць сваімі карэньнямі к грэцкім стужкам (тэні). Дык ці ня дзіва, што беларускія сялянкі цяпер выробляюць крупы таўкачамі, якія мы бачым на адным малюнку Палігнота з V сталецьця, да Н. Х. ў руках траянскіх жанчынаў, каторыя абараняюцца імі ад нападаючых грэкаў?

К XVIII сталецьцю адносяцца дзьве Беларускія фабрыкі мастацкай індустрыі: фабрыка паясоў у Слуцку й фабрыка шкляных рэчаў у Урэччы. Трэба сказаць, як аб першай, так і аб другой фабрыках, што нельга гаварыць аб уплыве польскага мастацтва. Кіраўнік і галоўны майстар першай фабрыкі Леў Мадзярскі (дзед па матцы польскага кампазытара Манюшкі), родам вэнгар, навучыўся ў палоне ў туркаў паясному мастацтву ад Бізантыцкіх майстроў. У Урэччы працавалі амаль што толькі нямецкія майстры: Вахстрэм, Кауфэльд, Флекк і інш.

Шмат яшчэ не разшуканых скарбаў хавае ў сабе Беларусь,—і гэтыя скарбы маюць ня толькі гістарычнае значэньне. Прыйдзе час, калі аб іх будуць гаварыць, як прыйдзе час для самой Беларусі.

З нямецк. перакл. **М. Байкоў.**

# Уплыў музыкі на чалавека й жывелу*).

I.

Кожны больш-менш дазнаў сам на сабе, што музыка мае нейкі ўплыў на чалавека. Кожнаму даводзілася пад уплывам яе перажываць тыя ці іншыя пачуцьці. Ужо людзі самае сівое старавечнасьці лічыліся з гэтаю здольнасьцю музыкі, аб чым сьведчаць тыя міфы й байкі, якія злажыліся ў розных народаў. Хто ня ведае грэцкага міфу аб Орфею, які сваёй музыкай вызваліў з таго сьвету жонку, ці аб цудоўных дудках і гуслях у славянаў, прымушаўшых да скокаў усіх, каму толькі здаралася чуць іх. Гэткіх міфаў ёсьць шмат.

Перш за ўсё музыка, наогул, мае ўплыў на нэрвовую сыстэму чалавека. Яна зьменшвае ці павялічвае яе чыннасьць. Яна то ўспакойвае пачуцьці, то выклікае цэлую навальніцу іх.

Грэкі, ўважаючы на здольнасьць музыкі выклікаць самыя разнастайныя пачуцьці, дзялілі яе на катэгорыі й казалі, што фрыгійская музыка выклікае адвагу; лідыйская—сум, тугу; золійская—прыёмны настрой; дорыйская—рэлігійнае пачуцьцё.

Паэта й сьпявак Пятро дэль Кастэльнуоро, які жыў у другой палове XVIII веку, аднойчы быў захоплены злодзеямі, якія хацелі яго абабраць і забіць. Ня бачучы ніякага ратунку, ён засьпяваў, і сьпевы яго зрабілі такое моцнае ўражаньне на злодзеяў, што яны, нават, пальцам не кранулі яго й адпусьцілі яго на свабоду.

У ваднэй хроніцы апавядаецца аб прадстаўленьні ў Эйзанаху 26 красавіка 1322 году містэрыі на сюжэт аб пяці мудрых і пяці неразумных дзевах. Гэта містэрыя давяла да такога абурэньня Ляндграфа Фрыдрыка, што ён праз пяць дзён памёр.

Лекар Бурдэлё сьведчыць вось аб якім здарэньні. Калі выдатны кампазытар Алессандро Страдэльля (1645—1681) жыў у Венецыі, то сваёй музыкай і сьпевамі ён прывабіў да сябе дачку аднаго вяльможнага вэнэцыянца, Эстэльлю, якая закахалася ў ім. Яны ўцяклі з Вэнэцыі. Жаніх Эстэльлі паслаў у пагон за імі разбойнікаў. Разбойнікі знайшлі іх у Рыме. Каля царквы, дзе ў гэты час ішла араторыя Страдэльлі «Сьв. Джыовані Батыста», яны чакалі яго, каб забіць, калі ён выйдзе з царквы. Але музыка Страдэльлі зрабіла на іх вялікае ўражаньне, й яны ня толькі не зрабілі злачынства, але, нават, параілі Страдэльлю, як яму ўнікнуць помсты вэнэцыянца.

Сакецьці кажа, што факт гэты ня мае навуковай пэўнасьці.

Яшчэ адзін прыклад.

Сярод сьпевачоў XVII й XVIII веку асабліва выдаваўся сваім голасам Фарынэльлі (1705—1782). Аднойчы яго запрасілі ў Лёндан. Там ён павінен быў сьпяваць у нейкай опэры разам з другім выдатным сьпевачом Сэнэзіно. Да гэтага часу яны друг дружку ня чулі. Сэнэзіно граў ролю лютага

*) Значная частка матэр'ялу узята з лекцыі на гэту тэму профэсара Казанскага унівэрсытэту І. М. Догеля, надрукаванай у 1888 годзе у Казані.

тырана, а Фарынэльлі закутага ў жалезы героя. Калі апошні сьпеяў сваю арыю, Сэнэзіно забыў сваю ролю, забыў, дзе ён знаходзіцца й кінуўся абымаць свайго ворага.

Кожны сам на сабе адчуваў уплыў прыгожай царкоўнай музыкі й ведае, якую яна мае уладу над душой чалавека. Хто чуў гукі званоў у час пажару, той ніколі не забудзе, якой трывогай, жахам напаўняюць яны сэрца чалавека. Наадварот, музыка спакойная дае адпаведны настрой чалавеку, калі душа яго захоплена якім-небудь трывожным пачуцьцём.

Колькі самых разнастайных пачуцьцёў выклікае свая родная песьня ў чалавека, які знаходзіцца на чужыне. Музыка пры пахаваньні наганяе на чалавека тугу й выклікае думкі аб нязьбежнасьці сьмерці.

II.

Музыка мае уплыў на ўзбуджэньне душэўных здольнасьцяў і сілу скарачэньня мускулаў. З незапомных часаў яна ўжываецца на вайне дзеле падняцьця ваяўнічага духу. Гісторыя сьведчыць што калі ў Спарце былі хатнія спрэчкі, музыка вядомага ў той час музыкі Тарпандра зрабіла такое моцнае ўражаньне на спартанцаў, што яны забылі свае звадкі й пагадзіліся. У часе 2-ой Мэсенскай вайны афінцы, каб пакпіць з спартанцаў, паслалі ім у камандзіры кульгавага Тыртэя. Але ён сваёй музыкай падняў ваяўнічасьць у спартанцаў, і яны разьбілі свайго ворага.

Усякаму здаралася заўважаць, што пад музыку йсьці куды лягчэй, чымся без яе.

Калі Напалеон пераходзіў цераз Альпы, салдаты яго вельмі замарыліся, й начальнікі аддзелаў данесьлі яму, што далей ісьці немагчыма. Тады ён загадаў зайграць марсэльезу. Жаўнеры заварушыліся й з крыкамі «Віват, гэнэрал, віват, рэспубліка», рынуліся наперад, хутка зрабілі пераход і зайшлі ў тыл ворагу.

Пад уплывам музыкі жаўнер забывае аб небясьпечнасьці. Гукі бубна так сама ўзбуджаюць чалавека.

Яшчэ ягіпцяне ўжывалі музыку дзеле рэгуляваньня працы. Ужываецца яна з гэтаю мэтаю й цяпер. Пад музыку лягчэй рабіць гімнастыку, чымся без яе. Скакаць бяз музыкі блізка што нельга. Наадварот, пад музыку людзі, нават, малакроўныя, з слабым здароўем здольны скакаць вельмі доўгі час. Музыка ня толькі ажыўляе тых, хто ўмее скакаць, але й тых, хто зусім ня скача.

Яна мае ўплыў і на страваварэньне. Яшчэ рымляне ўжывалі музыку ў часе абедаў. Гэты звычай цягнецца й да нашых часоў.

Байрон, дзякуючы неўмеркаванаму спосабу жыцьця, так сапсаваў свой жывот, што ён амаль зусім ня мог пераварыць ніякае стравы. Лекары параілі яму ў часе абедаў слухаць прыемную музыку. Байрон паслухаўся гэтае рады, й здароўе яго палепшылася.

Музыка мае нават уплыў на дыханьне. Калі зайграць allegro, то дыханьне робіцца больш хуткім, andante—больш роўным. Калі пасьля мажорнай мэлёдыі граюць мінорную з няхуткім тэмпам, дыханьне робіцца больш глыбокім і рэдкім, мускулы расслабляюцца й выклікаецца сумны настрой. Нават, звычайны царкоўны звон і той мае ўплыў на чалавека.

III.

Вялікі ўплыў мае музыка й на жывёлу. Вайсковыя добра ведаюць, якое ўражаньне робяць сыгналы й музыка на коняў. Сабака вые, калі чуе музыку. Птушкі навучаюцца насьледаваць сьпевам ці йгрэ на інструмэнтах. Канарэйкі, чыжы й салаўі, прыслухоўваючыся да музыкі, пачынаюць мацней сьпяваць. Рыбаў можна прызвычаіць зьбірацца на звон. Вандраўнік Хардын сьведчыць, што гадзюкі «copra de capello» пад гукі флейты надуваюцца, паднімаюць галаву ўверх і рухаюць хвастом. Калі музыка канчаецца, яны застаюцца нейкі час у расслабленым стане. Страбон запэўняе, што музыка мае моцны ўплыў на сланеў, а некаторыя кажуць, што нават і на пшчол.



Сяліба у Мазыршчыне.

У апошніх гадох XVIII веку ў зоолёгічным садзе ў Лёндане рабіліся досьледы з мэтаю даведацца, які ўплыў мае музыка на розную скаціну. Перад клеткамі з зьвярмі граў на скрыпцы музыка. Вядзьмедзі падыйшлі да клеткі, з вялікай увагай і прыемнасьцю слухалі музыку й часамі з вялікім здавальненьнем раўлі. Калі музыка браў няверныя акорды, яны ўцякалі, а потым зноў падыходзілі бліжэй. Калі зайгралі марш, яны пачалі хадзіць пад такт па клетцы. Львам, як было відаць, музыка вельмі падабалася. Ваўкі ўвесь час горбіліся й выскальвалі зубы. Індыйскі воўк надта спалохаўся, ўцёк у кут, лёг на жывот і калаціўся ўсім целам. Афрыканскі слонь быў вельмі нездавольнены, хістаў клетку й выў. Вялікае ўражаньне рабіла музыка на малпаў. Няверны акорд кідаў іх у жах. Пры шалёнай музыцы яны ўцякалі.

IV.

Музыка мае уплыў на дзейнасьць сэрца й робіць зьмены ў крывабезе. Профэсар Догель рабіў досьледы над жывёлаю пры дапамозе асобнага інструмэнту—кімографіона. Артэрыю якой-небудзь скаціны злучаюць з мономэтрам кімографіона. Мономэтр—гэта шкляная трубка, падобная да дугі, напоўненая да паўнай вышыні жывым серабром.

У вадным канцы мономэтра па-над жывым серабром знаходзіцца паплавок. Пяро паплаўка датычыцца да бубна. Калі артэрыя жывёлы злучана з мономэтрам, ваганьне крыві перадаецца жывому серабру, ваганьне-ж апошняга—паплаўку. Пяро паплаўка на паперы бубна, які круціцца, запісвае крывую, якая відавочна паказвае скарачэньне сэрца й дауленьне крыві на сьценкі артэрыяў і венаў. Каб зрабіць немагчымым мускульны ўплыў пры руху скаціны, яе часам атручваюць стрэльным ядам—курарэ. Крывабег працягнецца, калі штучна падтрымліваць дыханьне. Узоры 1, 2 й 3 паказваюць рэзультаты досьледаў над маленькім сабачкам-пінчэрам.

## УЗОР 1.

| Лічба досьледаў. | Лічба сэрцабіцьцяў у 10 сэкундаў. | | | Дауленьне крыві у мільімэтрах слупу жывога серабра. | | | УВАГІ. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Да. | У часе. | Зараз-жа пасьля | Да. | У часе. | Зараз-жа пасьля. | |
| | Раздражненьні слуху. | | | Раздражненьні слуху. | | | |
| 1 | 20 | 23 | 22 | 130 | 204 | 128 | Жывела спакойная й не атручаная курарэ. |
| 2 | 35 | 40 | 37 | 178 | 222 | 210 | |
| 3 | 32 | 39 | 37 | 204 | 214 | 214 | Атручана курарэ; дыханьне штучнае; у вену уліты мільліграм стрыхніны; досьлед начаўся праз 10 сэкундаў пасьля гэтага. |

## УЗОР 2.

| Лічба досьледаў. | Лічба сэрцабіцьцяў у 10 сэкундаў. | | | Дауленьне крыві у мільлімэтрах слупу жывога сераб. | | УВАГІ. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Да. | У часе. | Зараз-жа пасьля. | Да. | У часе. | |
| | Раздражненьні слуху. | | | Раздражненьні слуху. | | |
| 1 | 21 | 25 | — | 142 | 146 | Жывела спакойная; атручана ня была. |
| 2 | 24 | 19 | — | 148 | 156 | |
| 3 | 14 | 16 | 17 | 131 | 143 | Атручана курарэ; штучнае дыханьне. |
| 4 | 15 | 17 | — | 128 | 129 | |

Крывая (малюнак 1), паказвае дауленьне крыві ў неатручанага труса да (аб) і ў часе (бв) раздражненьня слуху.

Крывая (мал. 2) паказвае дауленьне крыві ў атручанага труса да (аб) і ў часе (бв) раздражненьня слуху пры дапамозе жалейкі.

## УЗОР 3.

| Лічба досьледаў. | Лічба сэрцабіцьцяў у 10 сэкундаў. | | Дауленьне крыві у мільлімэтрах слупу жывога серабра. | | УВАГІ. |
|---|---|---|---|---|---|
| | Да. | Зараз-жа пасьля. | Да. | Зараз-жа пасьля. | |
| | Раздражненьні слуху. | | Раздражненьні слуху. | | |
| 1 | 46 | 50 | 114 | 150 | Жывела не атручана. |
| 2 | 48 | 49 | 112 | 146 | |
| 3 | 36 | 40 | 132 | 140 | Жывела атручана. |

Крывая (мал. 3) паказвае зьмену ў крывабезе й дыханьні ў неатручанай коткі ў часе йгры на клярнэце 2-ой і 3-ей актавы.



Мал. 1.



Мал. 2.



Мал.

## V.

Для досьледаў над крывабегам у чалавека прыдуманы плетысмограф (глядзі мал. 4, на стр. 14).

А—шкляны цыліндар; Б—шкляная пасудзіна, якая злучана з цыліндрам пры дапамозе гутапэрчавай трубкі (а). В—крэсла з прыладай, каб трымаць галаву (б) й рукі (в) ў спакойным і нярухомым стане. Адзін канец шклянога цыліндру злучаны з гумалястковым рукавом (г), праз які прасоўваецца ў цыліндар рука; д—мэталічная трубка з крантам, увінчаная ў зробленую ў цыліндру мэталічную гайку. Е—эластычная перапонка, якая разьдзяляе дзьве зложаныя сваімі шырокімі канцамі леечкі. Ценкі канец аднае леечкі злучаны з мэталічнай трубкай (д) пры дапамозе гумалясткавай трубкі, а ценкі канец другой леечкі злучаны гэткай самай гумалясткавай трубкай (л) з бубнам König'а. Эластычная перапонка апошняга зьвязана з вельмі рухавай вагой. Мэталічная трубка патрэбна, каб па сканчэньню досьледа выдаліць ваду з цыліндра. У часе досьледа гэтая трубка зачы-

няецца мэталічным коркам (ж). З—мэталічная трубка, адчыняючы ці зачыняючы якую, магчыма выдаляць бурбалкі паветра, калі цыліндар напаўняецца вадою.

На малюнку 5 можна бачыць асобна бубен König'а з упартай перапонкай і вагай.

Малюнак 6 паказвае дзьве шкляныя леечкі (а) й (б). Да леечкі (а) прыладжваецца ўпартая перапонка, а да краю шырокага канцу гэтае ле-

цавай дзейнасьці, а так сама за прылівамі й адлівамі крыві к руцэ й за зьменай, нават, дыханьня ў чалавека, рука якога ўвесь час знаходзіцца ў спакойным і нярухомым стане.

Выклікаючы пэўнае сілы, вышыні й тэмбру гукі пры дапамозе розных інструмэнтаў, мы маем мягчымасьць бачыць, які ўплыў маюць гукі на зьмену ў дзеяльнасьці сэрца й крывабегу наогул. Сэрца скарачаецца то хутчэй, то радзей.



Мал. 4. Мал. 5. Мал. 6.



Мал. 7.

ечкі прыстаўляецца й прырабляецца шырокі канец леечкі (б).

Г—бубен з такім самым прыстройствам, як у гадзіньніках, дзеле таго, каб гэты бубен рухаўся аднастайна. На бубен наклейваецца закапцелая папера. На гэтай паперы запісваецца рух вады ад ваганьня крыві ў руцэ чалавека, з якім робіцца досьлед.

А досьлед робіцца гэткім спосабам.

У шкляны цыліндар праз дзірку ў гумалясткавым рукаве прасоўваецца рука чалавека. Пасьля гэтага ў цыліндар наліваецца вада пры дапамозе другой пасудзіны з вадою. Вада ў цыліндру, дзякуючы шрубованай мэталічной трубцы з крантам, гумалясткавай трубцы й элястычнай перапонцы, знаходзіцца ў зьвязку з вельмі чулай вагой. Крант мэталічнае трубкі патрэбны дзеле таго, каб да пачатку досьледу ўхапіць на пэўны час ваганьне вады цыліндра на перапонку й вагу. Даўленьне вады ў цыліндры рэгулюе другая пасудзіна з вадой, дзеле чаго яе то паднімаюць то апускаюць. Калі ўсё ўжо наладжана, адчыняюць крант і праз гэтае вада пасудзіны атрымлівае зьвязак з элястычнай перапонкай і вагой. Большая ці меншая колькасьць крыві, што прылівае да рукі, будзе запісвацца на закапцелай паперы - бубна, які круціцца. Мы, значыцца, маем магчымасьць сачыць за хуткасьцю, сілай і правільнасьцю сэр-

Ваганьне ў даўленьні крыві й сэрцабіцьці прыкмячаецца нават ад рознай сілы гукаў і роду інструмэнтаў.

Трэба адзначыць, што адна й тая музыка робіць рознай сілы ўражаньне на людзей розных нацыянальнасьцяў. Чуласьць да музыкі знаходзіцца ў цесным зьвязку з нацыянальнасьцю.

Крывая (мал. 7) паказвае зьмену ў дыханьні й крывабезе ў служачага фармоколёгічнае ляборатоыі, татарына Гарыфа да (аб), ў часе (бв) й пасьля (вг) йгры гэткае татарскае мэлёды:



Аднойчы я граў каўказцу мелёдыі розных нацыянальнасьцяў. Ен слухаў іх з прыемнасьцю, але відаць было, што асабліва моцнага ўражаньня яны на яго ня робяць. Калі-ж я заграў каўказкую мэлёдыю, ён раптам зрабіўся зусім іншым чалавекам. Твар яго пачырванеў, вочы заблішчэлі, рукі й ногі мімаволі пачалі адбіваць тахт і з усяго было відаць, што ён знаходзіцца ў вялікім захапленьні.

VI.

Людзі даўно ужо пачалі ужываць музыку, як адзін з спосабаў лячэньня.

Яшчэ Давід сваёй музыкай успакойваў Саула. Раілі лячыць музыкай вялікшыя грэцкія мудрацы, як Піфагор і Арыстотэль. Вышэйпамянёны выдатны пявец Фарынэльлі выратаваў ад душэўнай хваробы гішпанскага караля Піліпа V і праз гэтае зрабіў яго здольным зноў кіраваць гаспадарствам. У Італіі музыка ужываецца дзеле лячэньня адурэньня ў Рэджыо й Рэрыджыа. Вядомы францускі фізыялёг Міжадзё у сваім навуковым творы даець шмат прыкладаў добрага ўплыву музыкі пры некаторых нэрвовых хваробах у глуханямых і лячэньня падучай хваробы.

Досьледы ў Францыі, Нямеччыне й іншых дзяржавах так сама далі вельмі добрыя рэзультаты лячэньня душэўна-нэрвовых хваробаў музыкай.

Напасьледак трэба яшчэ ад'значыць, што нават да Н. Х. некаторыя народы, як, напрыклад, кітайцы глядзелі на музыку, як на адзін з найлепшых спосабаў выхаваньня. Плятон казаў, што кожны чалавек ад 13 да 16 гадоў павінен навучацца музыцы. З гэтага боку музыка з кожным годам пашырае сваю дзейнасьць і набірае больш сурьёзнага значэньня.

Музыка значыцца, мае ўплыў на нэрвовую сыстэму, на скарачэньне мускулаў, на сэрца й крывабег наогул, на дыханьне й іншыя галіны дзейнасьці жывучага арганізму, а так сама й на духоўную дзейнасьць чалавека.

**А. Рамаяоўскі.**

# Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі.

*(Лекцыі, чытаныя для студэнтаў Менскага Пэдагагічнага інстытуту у г. Яраслаўлі ў 1917 — 1918 року).*

**Прадмова.**

Перабачай, працоўная Беларусь—маці, што я, можа, ня так добра й ня так грунтоўна зраблю невялічкую працу маю. Перабачайце й вы, сыны Беларусі, працаўнікі яе адраджэньня, што ня ўсю працу вашу абхаплю я тут, у гэтым кароткім нарысе.

На далёкай, халоднай чужыне, ў бежанскім гаротным стане складаўся мой нарыс, і ня было ў мяне пільных падручных матар'ялаў, каб зрабіць усё так добра, як жадалася. Але здавалася мне, што я павінен быў працаваць, павінен быў палажыць і свой малюсенькі каменчык у той агромністы будынак, каторы будуецца цяпер на Беларусі. Мне здавалася, што ўсе сыны Беларусі павінны цяпер стаць на працу для рабоча-сялянскай бацькаўшчыны сваей, для сваей гаротнай старонкі. Прыйшоў час!

„Годзе ў полі, ў лясох ты, старонка, і так
Сіратой начавала забытаю!
Годзе выпіў крыві з сэрца крыўды чарвяк,
Вецер косьці тачыў непакрытыя.
Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі,
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі!"
*(Янка Купала).*

**Адраджэньне народаў пасьля францускай рэвалюцыі 1789 року.**

Вялікая француская рэвалюцыя 1789-га року, поруч з рухам палітычным і сацыяльным, падняла яшчэ й рух культурна-нацыянальны.

Найперш за ўсё рэвалюцыя для самых французаў была хоць і цяжкай, але вялікай нацыянальнай справай, бо ім прышлося бараніць і рэвалюцыю й сябе, як дзеячоў яе, ад моцнага й часам дружнага ўціску коаліцый, каторыя ўраз былі зграмаджаны ўладарамі й суседніх і далёкіх гаспадарстваў.

Апроч таго, рэвалюцыя галасна загаварыла на ўвесь сьвет аб правох на самасьвядомасьць і самавызначэньне ня толькі індывідуальнай асабістасьці, але й асабістасьці колькляктыўнай, або нацыі. У зьвязку з рэвалюцыей у грамадзянстве загаварылі ня толькі аб братэрстве людзей, але й аб братэрстве народаў, з каторых кожны павінен мець сваю народную душу, свой нацыянальны твар.

Пачалі прачынацца народы. Канец 18-га й пачатак 19-га сталецьця ёсьць час адраджэньня народаў. Пайшоў нацыянальны рух у Аўстрыякаў, Прусакаў, Гішпанцаў, Партугальцаў, Палякаў і г. д. Нават у Расіі пайшоў гэты рух, падняў народ на Напалеона, папхнуў масы на Захад і парадзіў потым ідэі дэкабрыстаў, якія мелі пэўны нацыянальны напрамак. У Польшчы, каторая ў той час была разьбіта на кавалкі, нацыянальны рух пайшоў найбарджэй. Падняўшыся ў Польшчы, гэты рух перакінуўся й на Беларусь, у каторай польскія патрыёты бачылі часьціну непадзельнай Рэчы Паспалітай.

Апроч таго, ў пачатку 19-га сталецьця ў вагульнай літэратуры зьяўляецца рамантычны напрамак. Дзякуючы яму, скрозь, па ўсёй Эўропе, лепшыя людзі таго часу цікавяцца народнай паэзіей, а поруч з гэтым і жыцьцём народаў, стварыўшых паэзію й штукарства. Асабліва пачынаюць цікавіцца гісторыей, мовай і жыцьцём прыгнечаных, пакрыўджаных нацый.

І вось выходзяць на шлях гістарычнага й грамадзянскага жыцьця народы, на век як-бы загібшыя. Шмат такіх народаў прачнулася пасярод

славянскага племяні, напрыклад, харваты, славінцы, сэрбы, украінцы і г. д. Прачнуўся напасьледак і народ беларускі.

### Беларусы у пачатку 19-га сталецьця.

Беларусы ў пачатку 19-га сталецьця былі ўжо адным з народаў Расійскай Імпэрыі. Яны ўвайшлі ў лік яе народаў як цёмная, забітая сялянская грамада, аблівaўшая сваім крывавым потам і сьлязьмі горкай долі панскую, шляхоцкую зямлю.

Цяжкая паншчына зрабіла гэтую грамаду як-бы працавітым быдлам, як-бы адняла душу й розум, адняла пачуцьцё сваей чалавечай вартасьці й нацыянальнасьці. Ня было часу „хлопу"—беларусу думаць вялікую думку аб тым, хто ён такі, якога ён клясу, якога ён роду й племяні. Знаў ён толькі, што ён „тутэйшы" працаўнік-земляроб; што ён усё робіць і нічога ня мае.

Галава народу, яго інтэлігэнцыя, людзі прасьветы адыйшлі ад някультурнага, забітага паншчынай беларуса-мужыка й зьліліся з інтэлігэнцыей ці Польшчы, ці Вялікарусі. «Сыны Бацькаўшчыны нашай да чужых у найміты пайшлі, каб чужыя гумны й засекі багаціць». (Уласт). І хто, як ні яна, гэтая палянізаваная беларуская інтэлігэнцыя, дарaвала народу польскаму яго вялікага песьняра, навагрудзкага жыхара, Адама Міцкевіча.

Беларуская працоўная грамада, пакінутая сваей інтэлігэнцыей, не магла сама, сваімі ўласнымі сіламі пачаць працу для свайго адраджэньня. Яна магла толькі гдзесь глыбока ў сваёй гушчы захаваць мову бацькоў сваіх. А мова гэтая калісь, у 14, 15, 16, нават і ў 17-м сталецьцях, была пачэснай, кніжнай, літэратурнай мовай у вялікім княжстве Літоўска-Беларускім. У гэтай мове калісь пісаліся «лісты, выпісы й позвы» ў літоўска-беларускіх канцалярыях і судох, друкаваліся граматы князёў, статуты гаспадарства й літэратурна-навуковыя кнігі.

У пачатку 19-га сталецьця беларуская мова была ужо ў стане «простай», «хлопскай», «мужыцкай» мовы. Яна нідзе ня мела аніякіх правоў: ні ў школе, ні ў судзе, ні ў царкве, ні ў канцалярыі. Яна як-бы схавалася пасярод нашых палёў, сенажацяў, лясоў і балотаў, у працоўнай вёсцы, у сялянскай хаце.

Ня чуючы сваей мовы сярод паноў, чыноўнікаў і інтэлігэнтаў, цёмны селянін пачаў думаць, а патым стаў пераканаены ў тым, што яго мова ёсьць толькі мужычая мова, мова някультурнага й бяспраўнага люду; што на гэтай мове немагчыма а ні гаварыць нешта разумнае, а ні пісаць, а ні чытаць, а ні друкаваць кніжак, а ні маліцца. У гэтай думцы падтрымвалі яго й панующыя станы, выстаўляючы на зьдзек простую мову простага, працоўнага люду. І беларус-мужык, які шанаваў сваю мову, меў пакуль што пачуцьцё свaей асобнасьці сацыяльна-эканамічнай, не дагадваючыся аб сваей культурна-нацыянальнай асобнасьці.

### Пачатак нацыянальнага беларускага руху.

Нацыянальнае беларускае адраджэньне пачалося не ў сялянскай грамадзе. Неспадзевана пачалося яно пасярод той беларускай інтэлігэнцыі, каторая даўно ўжо апалячылася, але каторая мела цікавасьць нейкую да мясцовай беларускай старасьветчыны й мясцовага жыцьця. Зацікавіліся Беларусей польскія нацыянальныя патрыёты, каторыя сваімі вачыма бачылі, як руйнуецца й разьбіваецца на кавалкі будаванае праз сталецьці польскае гаспадарства. Зараз пад рукою няма ў мяне твораў аніводнага з гэтых людзей, каб зьвярнуць Вашу ўвагу на ўсе тыя думкі, якія тут праводзіліся. Можна толькі адзначыць, што чырвонаю ніткаю праходзіла тут думка, што Літва й Беларусь у палітычным сэнсе ёсьць неадрыўная частка Рэчы Паспалітай; што гэтыя правінцыі Польшчы маюць усё-ж такі нейкія мясцовыя культурныя асобнасьці. Польскія вучоныя й патрыёты канца 18-га й пачатку 19 га сталецьця знаёмілі грамадзянства ў польскай мове з археалёгіей Беларусі, памяткамі старога пісьменства, народнымі творамі й звычаямі Беларусі. З гэтых людзей, працаваўшых у такім напрамку, патрэбна назваць Шыдлоўскага, Лукашэвіча, Голэмбёўскага, Ярашэвіча й Нарбута.

Працы іх, як мы казалі, пісаліся ў польскай мове, але часам яны пeратлумачываліся й на вялікарускую мову. Такім спосабам і расійскае грамадзянства знаёмілася з Беларусей, але праз польскія рукі.

### Пераніцованая Энэіда.

Поруч з творамі вышэйпаказаных аўтараў у польскай мове, яшчэ з канца 18-га сталецьця зьявіліся спробы твораў у мове беларускай. Гэтыя творы хадзілі па сьвеце ў рукапісах і не маглі папасьці ў друк, бо расійскім цэнтровым урадам было забаронена друкаваць кнігі ў беларускай мове. Калі-не-калі праўда зьяўляліся беларускія творы ў друку, але й то пад імем польскіх ці украінскіх або баўгарскіх (!) твораў.

Адным з такіх твораў была, як і на Украіне, пераніцованая Энэіда. І да нашага часу мы ня ведаем, хто быў дапраўды аўтарам Энэіды. Па адных зьвестках напісаў яе Манькоўскі ў 90-я гады 18-га сталецьця, а па другіх зьвестках яна напісана Равінскім крыху пазьней. Магчыма так сама думаць, што Манькоўскі й Равінскі былі ня аўтарамі гэтай пераніцованай паэмы, а толькі запісчыкамі яе й рэдактарамі, бо й да нашага часу Энэіда дайшла ў двох запісах вышэйпаказаных асоб. Дзякуючы таму, што паэма доўгі час ня бачыла друку й пашыралася сярод чытаючай публікі ў перапісаных адзін з другога экзэмплярах, а можа проста перадавалася з вусн у вусны, яна мае ў сабе шмат незразумелых слоў і памылак. Здаецца, што паэма лепш зьберaглася ў запісу Равінскага. Пераніцованая Энэіда пачынаецца так:

„Жыў быў Эней, дзяцюк хупавы,
Парнюк нівошта украсіў;
Хоць пан, а ўдаўся ня лукавы,
Дacтупен, весел, не сьпясіў.
Но грэкі вайну нарабілі,
Як лядо, Трою ўсю спалілі:
Кашэль ён згробшы—наўцёк.
І швідка зрабіўшы чаўнок,
Траянцамі яго набіў
І ў мора з імі ён паплыў."

Далей, трымаючыся сюжэту праўдзівай Энэіды, аўтар укладае ў зьмест свайго твору беларускі быт. У паэме малюецца жыцьцё беларускіх заможных сялян і падпанкаў, іх абычаі й звычаі.

Што датычыць да самага стылю паэмы, то напісана яна даволі такі кепскай мовай. Апроч таго, аўтар яе часта выстаўляе на зьдзек і беларуса й яго мову.

А ўсё-ж і гэтую паэму ў Беларусі калісь вучылі на памяць, яна перадавалася з вусн у вусны й стала як-бы народным творам.

Пародыя гэта пераложана не з лацінскага арыгіналу, а з украінскай Энэіды Катлярэўскага.

### Беларуская школа польскай літэратуры.

У 30-я й 40-я гады 19-га сталецьця ў польскай літэратуры зьявілася так званая „беларуская школа“. Яна паставіла сваёй мэтай падыйсьці да простага люду, да мужыка Беларусі, жадаючы уцягнуць яго ў жыцьцё Польшчы і ў яе палітычныя справы. Якраз то былі часы, калі Польшча змагалася з Расійскай Імпэрыей у паўстаньні 1831 року. З беларускага мужыка жадалі зрабіць чалавека, каторы стаў-бы грамадзянінам, патрыётам Польшчы й пайшоў-бы за паўстанцамі.

Прадстаўнікі гэтай школы, напрыклад, Рыпінскі, Ян Чэчат, Баршчэўскі й інш. пісалі ў польскай мове, падрабляючыся пад тон і кірунак народнай паэзіі й толькі зрэдка складаючы сякія-такія вершы пабеларуску. На Беларусь яны глядзелі вачыма польскіх патрыётаў і бачылі ў ёй часьціну Польшчы. З твораў гэтай школы патрэбна назваць—„Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny“ Яна Чэчата, „Białorus“ і „Niaczyścik“ Рыпінскага й г. д.

### Аляксандр Рыпінскі.

Рыпінскі ў 1831 року быў адным з выдатных польскіх паўстанцаў, а потым жыў эміграптам у Парыжу. Ня гледзячы на гэтае, ён ня згубіў зьвязкаў з сваей далёкай бацькаўшчынай. У 1840-м годзе ён выдаў кнігу пад назвай „Białoruś. Kilka słow o poezii prostego ludu tej naszej polskiej prowincyi“. Ужо па самай назьве кнігі мы бачым, што Рыпінскі лічыць Беларусь ні больш, ні менш як правінцыей Польшчы. Гэтая правінцыя Польшчы павінна, па яго мысьлі, й палітычна й культурна зьліцца з Польшчай. Аўтар пасьвячае сваю працу „першаму з беларускіх мужыкоў, каторы ўперад навучыцца чытаць, а потым і думаць папольску“. У прадмове да сваей кнігі аб Беларусі Рыпінскі выказвае такі пагляд на нашу Бацькаўшчыну: „Гэта Русь складае неразьдзельную часьціну нашай дарагой Бацькаўшчыны (Польшчы). Гэты народ зьбярогся дзеле таго, каб давясьці, што ён сам можа выбраць сабе пана, а чужых гаспадароў ня хоча знаць“. За пана Рыпінскі лічыў Польшчу, пад чужымі гаспадарамі разумеў Расію. Ен быў пераканаяны ў тым, што беларусу патрэбен, як не гаспадар, то пан. Яму і ў галаву ня прыходзіла яшчэ думкі аб тым, што працоўны беларус павінен быць сам сабе панам і гаспадаром.

Праз некалькі гадоў Рыпінскі выпусьціў у сьвет другі свой твор, каторы цікавы тым, што ён напісаны ўжо ў беларускай мове. Гэты твор пад назваю—„Niaczyścik, ballada białoruska“, знайшоў чытачоў і вытрымаў тры выданьні. Пачатак бальляды „Нячысьцік“ такі:

„Таму ужо сто лет будзе,
Старыя помняць то людзе,
Скажаць вам і Апанас,
Жыў быў Мікіта у нас.
На самым канцу сяла,
Там яго хатка была“.

Далейшы зьмест бальляды «Нячысьцік» такі. Мікіта з жонкай жылі ўдваіх, дзяцей у іх ня было. Мікіта быў чалавек не багаты. Толькі й было ў яго багацтва, што адзін добры вяпрук. У мясаед, калі людзі калолі вяпрукоў, Мікіта свайго не калоў, бо хацеў яшчэ падкарміць яго, каб карысьней прадаць. Жонка ў Мікіты была надта благая і сварлівая, нават, кажуць людзі, дружылася з нячысьцікам. Калі пачаўся пост, нячысьцік падбіў бабу, каб забіць вяпрука, нарабіць з яго каўбас і пад'есьці скаромнага, ня гледзячы на пост. Баба паслухалася чорта й прыстала да Мікіты, каб ён забіў парсюка. Мікіта згадзіўся, і парсюка закалолі. Пад каўбасу трэба было выпіць, і Мікіта пайшоў у карчму, каб купіць пляшку гарэлкі; кудысь адвярнулася й Мікіціха. Чорт тым часам схапіў мяса і ўцёк. Тады жонка пачала сварыцца на Мікіту, чаму ён ня пільнаваў парсюка, і ў сварцы гукнула на Мікіту: „а каб і ты прапаў!“ Толькі яна сказала гэткія словы, як сама правалілася скрозь у пекла.

У канцы бальляды аўтар так раіць чытачу: у посьце ня будзь ласы на скаромнае й не заводзь сваркі, а то Бог пакарае, як пакараў Мікіціху.

Гэты твор Рыпінскага мы ад'значаем толькі дзеле таго, каб паказаць, як хацеў аўтар падыйсьці да разуменьня мужыка. Напісаны твор, як бачым, у беларускай, мужычай мове. Самы сюжэт і зьмест твору бярэцца з вясковага жыцьця. Апроч таго, аўтар, добра ведаючы рэлігійна-фантастычны настрой беларускай вёскі, падрабляецца ў сваім творы пад гэты настрой.

### Ян Чэчат.

Значна больш ад Рыпінскага зрабіў для справы адраджэньня Ян Чэчат. Яшчэ маладым хлопцам быў ён разам з А. Міцкевічам у патайным гуртку „філёматаў“, за што ў 1823 року расійскі ўрад выслаў яго ў Арэнбург, дзе ён і пратаміўся, як выгнанец, доўгіх 10 гадоў. Вярнуўшыся да Беларусі, ён зрабіўся бібліятэкарам у кнігарні паноў Хрэптовічаў у дварэ Шчорсах Менскае губэрні, Навагрудзкага павету. Багатая бібліятэка дала яму магчымасьць зрабіцца вельмі прасьвячоным чалавекам для свайго часу. Гэты чалавек шчыра любіў беларускага мужыка й цікавіўся ўсім тым, што мела нейкую датычнасьць да жыцьця беларускай вёскі. Чэчат стаў пакрыху зьбіраць і выдаваць народныя творы, каб яны не загінулі. Апроч таго ён і сам пісаў у беларускай мове вершы народнага складу.

У двох сваіх зборніках пад назвай „Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny“, Чэчат паміж польскімі песьнямі даў месца 120-ці народным беларускім песьням. Апроч таго, тут маецца слоўнічак патрабнейшых беларускіх словаў, больш як 150 прыказак і шмат народных прыкметаў. Месца беларускай мовы пасярод іншых ён вызначае так: «Беларуская мова займае сярэдзіну паміж мовамі польскай, вялікарускай і украінскай. Украінская мова па своей будоўлі больш падобна да польскай, беларуская да вялікарускай“. Гаворачы далей аб беларускай мове, ён зазначае, што яна была раней ня толькі мужыцкай мовай; што яшчэ

й на яго памяці шмат было ў Беларусі такіх старасьвецкіх шляхціцаў, которыя паміж сабою размаўлялі пабеларуску, ня бачучы ў гэтым нічога саромнага.

Апроч зьбіраньня народных твораў, Ян Чэчат пісаў і сам вершы ў беларускай мове і ў народным кірунку. Ен здалеў так добра ўвайсьці ў душу народную й так праўдзівы народны кірунак яго ўласных вершаў, што сам народ часта прыймаў гэтыя творы ў сваю гушчу, й песьні Чэчата хадзілі па Беларусі побач з народнымі творамі. Нават пазьнейшыя этнаграфы-зьбірацелі, чуючы іх, лічылі за чыста народныя творы й давалі ім месца ў сваіх зборніках. Шкода, што пад рукамі ў нас няма прыкладаў творчасьці Чэчата. Патрэбна ўсё-ж ад'значыць, што яго вершы добра малююць жыцьцё мужыка й яго патаемныя думкі. Аўтар спачувае гаротнаму земляробу Беларусі й жадае для его лепшай долі. Гэтае спачуцьцё мужыку Чэчат атрымаў яшчэ з маладых сваіх гадоў і зьбярог да канца свайго жыцьця.

### Зборнік Э. Тышкевіча.

Пад уплывам падняўшайся цікавасьці да Беларусі ў 40-я гэды мінулага сталецьця працаваў для беларускай справы маршалак шляхэцтва Барысаўскага павету Эўстафі Тышкевіч. З друку выйшла апрацованая пад яго кіраўніцтвам і даглядам кніга ў польскай мове. У расійскім перакладзе гэтая кніга не надрукована. Парасійску яна маецца толькі ў рукапісу ў Віленскай публічнай бібліятэцы. Назва кнігі Э. Тышкевіча такая: «Описание Борисовского уезда в статистическом, хозяйственном, промышленно-торговом и медицинском отношении». Праца зроблена ґрунтоўна й ня згубіла вартасьці сваей аж да нашага часу.

Як відаць з назвы, ў зборніку маюцца зьвесткі статыстычныя, вяскова-гаспадарскія й прамыслова-гандлёвыя. Апроч гэтага ў кнізе ёсьць шмат гістарычнага матар'ялу. Тут так сама можна знайсьці нарыс штодзеннага вясковага жыцьця, народныя песьні, загаворы й забабоны; шмат маецца й прыказак.

Пазьнейшыя зьбірацелі этнаграфічнага беларускага матар'ялу часта карысталі з гэтай добра апрацованай кнігі; карысталі з яе і ўсе, хто цікавіўся жыцьцём-быцьцём ня толькі барысаўца, але й агульна беларуса.

### Першыя працы вялікарускіх вучоных. Калайдовіч і Кіркор.

З 20-х гадоў сталецьця пытаньнем а беларусах пачалі цікавіцца й вялікарускія вучоныя. Першым зьвярнуў увагу на гэту справу, добра сьвядомы ў архіўным пытаньні К. Калайдовіч. Ен стаў прыглядацца к дакумэнтам стара-беларускага пісьменства, не здаволіўшыся тымі зьвесткамі, якія даходзілі да яго праз рукі польскіх вучоных.

У 1822-м року зьявілася ў друку яго невялічкая праца «О бѣлорусском нарѣчіи». Тут ён адзначвае некаторыя асаблівасьці як стара-беларускай, так і сучасна-беларускай мовы. Тое, што Калайдовіч ня ведаў добра сучасна-беларускай мовы, часта прашкаджала яму ў яго навучковай працы. Дзякуючы гэтаму, ён прыходзіць да перакананьня, што беларускім пытаньнем павінны зацікавіцца самі беларусы, каторыя лепш могуць разабрацца ў роднай сваёй мове.

У канцы сваёй працы ён гавора так: «Намерение, руководствовавшее меня в написании статьи сей, состояло в том, дабы обратить на столь важный предмет внимание самих белоруссцев, которые вернее и лучше могут исследовать свое наречие и помощью оного объяснить древний язык наших памятников». Такім спосабам, па мысьлі Калайдовіча беларус павінен «исследовать белорусское наречие» ня столькі дзеле свайго самаад'значэньня, сколькі дзеле таго, каб лепей вытлумачыць старажытны язык агульна-рускіх памятнікаў. Выходзіла так, што, цікавячыся Беларусей, Калайдовіч больш меў на ўвазе агульна-расійскія культурныя інтарэсы.

Усё-ж такі самая цікавасьць да Беларусі мела вялікую вагу для таго, каб паставіць на цьвёрды грунт беларускае пытаньне.

І пасьля Калайдовіча вялікарускія вучоныя цікавяцца Беларусей, але гэтая цікавасьць іх даволі прыпадковая Ґрунтоўных працаў па беларускаму пытаньню няма аж да 50-х гадоў. Толькі з гэтага часу зьяўляюцца ў друку больш-менш выдатныя працы па беларускай этнаграфіі, напрыклад, працы Шпілеўскага, Мікуцкага, Юркевіча й інш.

У 1857-м годзе Расейскае Географічнае Обшчаства пачынае выдаваць зборнікі, ў каторых часам друкуюцца працы расійскіх вучоных аб Беларусі. У трэйцім зборніку Обшчаства мы сустракаемся з імем Кіркора, каторы тут пачаў свае этнаграфічныя працы аб Беларусі артыкулам пад назвай: «Этнографический взгляд на Виленскую губернию». Аўтар тут дае, апроч гістарычнага нарысу Віленшчыны, малюнкі быцьця ўсіх жыхароў краю, а паміж імі й беларусаў.

Пачаўшы сваю працу ў 50-е гады, Кіркор цягне яе праз некалькі дзясяткаў гадоў. У 80-х гадох пад агульным даглядам П. П. Сямёнава выдаюцца зборнікі пад назвай: «Живописная Россия». Трэйцяя кніга зборнікаў складаецца з двух зшыткаў. Першы пад назвай: «Литовское Полесье», другі—«Белорусское Полесье». Гэтая трэйцяя кніга «Живописной России» амаль ня ўся цалкам напісана Кіркорам. Трэба ад'значыць, што хоць гэтыя працы аўтара выйшлі з друку ў 80-я гады, іх науковыя пагляды належыць аднесьці да часу прац 50-х гадоў.

Усё-ж такі творы Кіркора карысна знаць усякому, хто цікавіцца беларускім пытаньнем. Тут ёсьць надта цікавыя артыкулы гістарычнага й археолёгічнага зьместу. Апроч таго, ў творах Кіркора маецца шмат этнографічна-бытавых матар'ялаў. Жыцьцё беларуса абхоплена з усіх бакоў. Мы бачым беларуса на радзінах, вясельлі й хаўтурох, у сьвята й будні; бачым, як ідзе ён, сьпяваючы родную песьню, з поля і ў поле; як ён захварэў, як прыйшла да яго баба-варажбітка, каб загаварыць і прагнаць хваробу; бачым, як сеўшы паважна на прызьбе сваей хаты, слухае беларус казкі й паданьні, каторыя апавядае яму сівая старасьветчына вуснамі сівога дзеда.

### Вінцук Дунін-Марцінкевіч. (1807—85).

Бацькам беларускай літэратуры быў Вінцук Дунін-Марцінкевіч. Дзяцінства сваё пражыў ён

дома у Бабруйскім павеце Менскай губэрні. У Бабруйску ён вучыўся ў сярэдняй школе, потым нейкія часы быў у Вільні ў Базыльлянскім кольлегіуме і ўрэшце браў навуку ў Пецярбурскім унівэрсітэце, каторага так і ня скончыў па якіхсь невядомых нам прычынах. Пасьля ён быў чыноўнікам у Менску, а пад старасьць купіў невялікі фальварак Люцынку пад Менскам, дзе й жыў астатнія гады жыцьця. Памёр у глыбокай старасьці ў 1885-м року.

Заслуга Марцінкевіча ёсьць у тым, што ён першы пачаў лічыць сябе «дударом» простага беларускага народу. У беларускай мове ён пачаў пісаць з 30-х гадоў мінулага сталецьця.

У 18[illegible]-м гаду ў Вільні была надрукована яго камэдыя ў двох зьявах «Сялянка». Да гэтай п'есы музыку напісаў Станіслаў Манюшка, і яе ставілі ў Менскім тэатры у 50-х гадох. Камэдыя вельмі спадабалася Менчанам і пралажыла беларускай мове сьцежку з вёскі ў места. Апрача гэтага Марцінкевіч напісаў паэму «Гапон», зборнік вершаў «Вечарніцы», апавяданьні—«Купала», »Шчэраўскія дажынкі» і г. д. Надта жадалася яму перакласьці на беларускую мову „Пана Тадэуша" Міцкевіча. Ен пачаў гэтую працу й здалеў перакласьці дзьве быліцы. Гэты пераклад чамусь не спадабаўся цэнзуры мікалаеўскага часу, й кніга была зьніштожана. Толькі ужо ў нашыя часы яна была выдана ў Пецярбурзе выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца».

У сваіх творах Марцінкевіч малюе вясковае жыцьцё ў Беларусі, жыцьцё паноў, падпанкаў, эканомаў і мужыкоў. Паны ў яго творах ласкавыя дабрадзеі мужыкоў, мужыкі за тое любяць іх, як сваіх бацькоў. Калі-б ня эканомы, каторыя дзяруць скуру з мужыкоў, калі пан адвернецца, то на Беларусі быў-бы рай.

У творах Марцінкевіча добра чутно, што ён выйшаў, як і польскі пясьняр Адам Міцкевіч, з шляхты й ёсьць патрыотам гістарычнай Рэчы Паспалітай з яе панскім складам жыцьця. Усё-ж і пры гэтым складзе жыцьця ён патрабуе ад паноў, каб яны зьвярнулі ўвагу на цяжкую долю мужыка й палепшылі яе, бо мужык корміць усе другія станы грамадзянства.

У вадным з сваіх вершаў ён ад імя мужыка гаворыць, што ўсе людзі, а ў тым ліку й мужыкі, павінны быць вольнымі. У кожным творы Марцінкевіча можна ясна відзець, што ён чуе патрэбу сыйсьці ў народныя нізы, прыахвоціць мужыка да навукі, даць яму пачуцьцё сваёй чалавечай вартасьці й пазнаёміць яго з звычаямі й жыцьцём яго бацькоў.

Гэта асабліва відаць з яго прадмовы да перакладу «Пана Тадэуша». Ен кажа там так: «Аповесьць Міцкевіча Пан Тадэуш, што так ясна, так шчыра малюець характар і звычаі паноў часу Напалеона, ўжо цяпер (1859 г.) перекладаецца на расійскую мову. Чаму-ж, думаю, наш народ просты, што з гэтымі панамі так блізка жыў, чаму-ж дробная акалічная шляхта, што, жывучы ў лясным зацiску, ў хаце між сабою сваей роднай ужывае мовы,—чаму-ж яна ня мае пазнаць абычаеў сваіх бацькоў. Вось гэта ўсё й нагнала мне думку пералажыць „Пана Тадэуша" на беларускую мову. Праца мая ў гэтай мове, што мела заахвоціць нашага беларускага мужыка й бедную шляхту да навукі, можна сказаць зусім ня сустрэла прыяцелеў сярод багатых людзей нашае старонкі. І вось я сягоньня ахвярую „Пана Тадэуша", прыбранага ў мужыцкую сярмягу паном і простаму народу з пад Дняпра, Дзьвіны, Бярэзіны, Сьвіслачы, Віліі й Нёмна. Можа народ той просты, што з маткай прыродай блізка жывець, прыймець гэты гасьцінец ад свайго дудара, што апошнія мінуты свайго жыцьця на карысьць народу аддаець».

Народ ня прыняў ад беднага дудара гасьцінца, бо быў цёмны й загнаны. Але гэты гасьцінец з падзякай прыняла ад аўтара культура Беларусі.

**Уладыслаў Сыракомля. (Людвік Кандратовіч).**

(1822—1862).

Вакол Марцінкевіча сабраўся гурток людзей меўшых цікавасьць да Беларусі, беларускага народу й яго мовы. У гэты гурток увайшлі будучыя працаўнікі беларускай справы, напрыклад, Сыракомля-Кандратовіч.

Радзіўся пясьняр у 1822-м року ў вёсцы Смолкаве Слуцкага павету, Менскай губэрні. Беднасьць не дала яму магчымасьці атрымаць правідловую адукацыю. Скончыў ён чатырохкляснае павятовае вучылішча ў дамініканаў у Нясьвіжы, а патым працаваў у мясцовым архіве пад кіраўніцтвам добра вядомага ў архіўнай справе, Н. Маліноўскага. Гэта дало Сыракомлю магчымасьць добра пазнаёміцца з мінулым роднага краю.

Сыракомля ўсім вядомы, як пясьняр у польскай мове. Ен шчыра любіць сваю Бацькаўшчыну Беларусь і сьпявае аб тым, што ёсьць сваё роднае. Працаўнік ён няўпынны, бо старая маці, жонка й трое малых дзетак хочаць хлеба.

З 1852 году Сыракомля пераехаў у Вільню, дзе жыў літэратурнай працай аж да сьмерці ў 1862 году. Пасьля сьмерці пясьняра нічога не засталося, апроч яго твораў, і трэба было зьбіраць грошы, каб не памерла з голаду яго сям'я. Пахавалі працаўніка-песьняра ў Вільні на Росе, і просты крыж сьцеражэ яго магілку аж да нашага часу.

Есьць шмат вершаў, каторыя пясьняр пісаў і ў беларускай мове. Беларускія яго вершы не маглі быць надрукованы па ўмовам цэнзурным. У друк неяк папаў толькі адзін яго беларускі вершык «Добрыя весьці». З гэтага вершу мы можам прывясьці некалькі радкоў, каторыя прыпадкова маем пад рукою.

„Заходзіць сонца пагодняга лета,
Веіць вецер з заходніх нябёс.
Здароў будзь, вецер! З далёкага сьвету
Ці добрыя весьці ты да нас прынёс?
Здаровыя будзьце, эй, добрыя весьці!
Там на Заходзе праліваюць кроў,
Б'юцца для славы, свабоды і чэсьці
і робяць вольных людзей з мужыкоў".

Магчыма думаць, што аўтар тут апісвае падзеі рэвалюцыі 1848 году. Судзячы па гэтых радкох, мы можам сказаць, што пясьняр жадае волі для падняволенага, забітага мужыка.

Што датычыць другіх беларускіх вершаў песьняра, то яны й дагэтуль яшчэ чакаюць свайго выдаўца. У гэтых сваіх вершах Сыракомля малюе жыцьцё беларускай вёскі: яе працу й адпачынак, гора й радасьць. Кажуць, што песьні Сыракомлі, як і песьні Чэчата, сьпяваліся на Беларусі

поруч з народнымі песьнямі: так падходзілі яны па свайму зьместу й тону да настрою простага люду.

**Паэма «Тарас на Парнасе».**

У першай палавіне мінулага сталецьця зьявілася й шмат чыталася тады й пазней сатырычная паэма невядомага беларускага аўтара пад назвай «Тарас на Парнасе». Хадзіла яна паміж чытачоў у рукапісу. Паэма бойка напісана праўдзівай, жывой беларускай мовай і пекнымі вершамі. Зьмест паэмы такі:

„Ці знаў хто з вас, браткі, Тараса,
Што палясоўшчыкам служыў?—
На Пуцявішчы, ля Парнаса
Ен у прысёлку сабе жыў.
О! Чалавек ён быў рахманы,
Гарэлкі ў губы ён ня браў,—
За тое ў ласцы быў у пана,
Яго пан дужа шанаваў.
Любіла тож Тараса й пані
І войт ні разу не брахаў,
За то ад вечара да раньня
Ен бору шчыра пільнаваў.
Чуць сьвет,—а ён стральбу за плечы,
Сякеру заткнець за пояс,
Ідзець сабе, каб бор сьцярэгчы
І птушачкі страляць пад час.
Хадзіў ці многа ён, ці мала,
Ды толькі нешта адзін раз
Бяда ў лясу яго спаткала.
Вось як казаў мне сам Тарас“.

На Кузьму Дзям'яна пайшоў ён ранкам біць цецярукоў і спаткаў вялікага мядзьведзя. Уцякаючы ад яго, ён уляцеў у нейкую яму; ляцеў, ляцеў і папаў у вельмі пекнае месца. Тут зьявіўся хлапчына, кругляліцы, ўвесь кучаравы, як баран, з лукам і каўчаном за плячыма. Ен паказаў Тарасу дарогу да гары Парнаса. Узяўшы ў рукі добры кій, Тарас пайшоў і праз якіх дзесяць вярстоў бачыць гару. Пад той гарой як-бы кірмаш: шмат там таўчэцца народу.

„Прыйшоў ён бліжэй,—што за ліха,
Народ ня просты, ўсё паны.
Хто дужа шпарка, хто паціху
Усе лезуць на гару яны“.

Прамеж іх тут нехта пішчыць (Булгарын), каб яго пусьцілі ўперад, з яго газэтай «Пчалой», а то аблае на ўвесь сьвет. Блізка ад яго нехта сівы, карогкі, тоўсты, як чурбан (Грэч), нясець мех газэтаў, кніжак і сваю граматыку. Вось раздаўся народ, і прайшлі, быц павы, ў самы верх Парнаса Міцкевіч, Пушкін, Каханоўскі й Гогаль. Лупіць сабе на Парнас і наш Тарас. Нарэшце ўлез. Бачыць, на гары стаіць як-бы панскі двор, дзе жывуць богі. У двары ходзяць сьвіньні, сабакі, козы й бараны, бо й богі водзяць гаспадарку. Тарас патым упёрся і ў хату да багоў. Іх тут сабралася шмат. Хто шые хадакі, хто пляце лапці. Багіні ў ночвах мыюць багам сарочкі ды порткі. Адны паляць піпкі, другія сьмяюцца. Вэнэра перад люстрам нечым морду сваю беліць, Амур жартуе з дзеўкамі, Марс з Вяркулесам барыкаюцца.

„Зэвес ляжыць сабе на печы,
Сярмягу ў голаву падклаў:
Ен грэў на пэчы стары плечы
І нешта ў барадзе шукаў.

Кале палудня селі есьці абед. Гэба падае на стол, як жорны, тры булкі хлеба, капусту, кулеш са шкваркамі, крупніку на малацэ, кашу з маслам, каўбасу, аўсяныя бліны. Абедаючы, пачалі багі піць гарэлку; падпіўшы, пачалі сьпяваць песьні й танцаваць. Найлепш гуляла Вэнэра.

„Узяўшы хустачку, Вэнэра
Пайшла мяцеліцу скакаць,
Прыгожа, стройна цераз меру,
Што аж ня можна і сказаць.
Чырвона, тоўста, кругляліца,
А вочы быц на калясе.
Як жар, гарыць яе спадніца,
І стужка ўплецена ў касе“.

Пайшоў у прысядку й Нэптун. Заткнуўшы за пояс рукі, ў новых ботах, скакаў Марс. Тых багоў, каторыя дужа насьцябаліся гарэлкі й наскакаліся, клалі спаць пад лаваю. Пачаставала Гэба гарэлкай, хлебам і крупнікам і Тараса за тое, што ён надта хораша скакаў. Калі Тарас добра выпіў і пад'еў, зэфіры на крылах прынясьлі яго да хаты.

„Так от што бачыў наш Тарас,
Улезшы на гару Парнас“.

Такі зьмест паэмы. З яго можна відзець, што паэма напісана адукаваным чалавекам для адукаваных чытачоў. Невядомы нам аўтар скарыстаў клясычную форму, каб даць малюнак жыцьця беларуса. Апроч таго, паэма дае правідловую характарыстыку маральнага й разумовага разьвітку беларускага мужыка. Аўтар, так сама, мог мець мэту выставіць на зьдзек тых пісакаў, каторыя, ня маючы талентаў, цягнуліся за выдатнымі песьнярамі, пісалі на „высокія й шырокія“ тэмы, забываючы аб сваім народзе й аб сваёй Бацькаўшчыне. Дзякуючы ўсяму гэтаму, паэма добра чыталася і ў адукаваных, і ў неадукаваных сфэрах і была добра вядома ў ва ўсіх куточках Беларусі. Пазьней паэма была надрукована й перадруковывалася разоў пятнанцаць. Яшчэ і ў нашы часы можна сустрэнуцца з ёю ў рукапісу. Пазьнейшае выданьне яе было зроблена выдаўніцкай суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца».

**У. Ігнатоускі.**

*(Працяг будзе)*

**Рэдактар: Рэдакцыйная Калегія.**

**Выдавец: Навукова-Літэратурны Аддзел Камісарыяту Народнае Асьветы Беларусі.**

Гэтакі зьмест «Курсу». Праца розных прафэсараў і дзеячоў не скаардывана; праводзяцца на працягу ўсяго „Курсу“ розныя думкі ня толькі аб адраджэньні, але й аб пытаньнях навуковага характару; ёсьць агульныя, двойчы-казаныя месцы ў розных аўтараў; сабраны статыстычны матар'ял не захоплівае ўсей Беларусі, а знача можна карыстацца толькі часткаю. «Курс»— гэта скарэй выбраныя зьвесткі па беларусазнаўству, з якіх можа кожны адраджэнец апрацовываць розныя бакі беларускага пытаньня, тым больш што да «Курсаў» прыкладзены бібліяграфічны сьпіс.

Як-ніяк, а значэньне «Курсу» вялікае. Гэта—адна з вешак на шляху адраджэньня. Трэба, каб «Курс» быў пашыран па ўсёй Беларусі, асабліва па Усходней. Няхай Беларускі Пад'аддзел далей, шыбчэй і глыбчэй вядзе сваю працу, адпавядальнасьць за якую запытае стыхія адраджэньня.

Габрыэльт.

## Кніга аб Беларусі на нямецкай мове.

У 1919 г. ў Бэрліне вышла з друку кніга: „Weissruthenien. Zand-Gewohner-Geschichte-Volkswirtschaft Kultur-Dichtung“ у выданьні Walter'a Jäger'a.

У прадмове вось як азначаецца мэта выдаўцоў кнігі. „Нямецкая літэратура аб Беларусі вельмі небагата. Сыстэматычнага прадстаўленьня аб гэтай староцы й яе культуры на нямецкай мове зусім ня было; праз сілу ўдалося сабраць для гэтага матэр'ял з агульных выданьняў аб Расіі, тыднёвікаў і часопісяў. Аднак і тут жніво было не вялічкае. Нічога сыстэматычнага не давалі й сабраныя ў кнізе П. Ст. Грабоўскага «Das Zand Ober-Ost», выданой у Штутгарце ў 1913 г., артыкулы аб Беларусі (стр. 1).

Запоўніць гэты недахват у нямецкай літэратуры і ўзяліся аўтары кнігі.

Вялікай дапамогай у гэтай справе зьявілася нямецкая кампанія 1918 г. Агульна кажучы, гэтая кампанія дала шмат матар'ялу немцам дзеле знаёмства з няведамым ім дагэтуль беларускім народам. Уражаньне афіцэраў 10 арміі, учасьнікаў кампаніі, між каторымі быў вядомы беларусавед праф. Абіхт, і саставілі матар'ял для кнігі. Апроч таго выдаўцы карысталіся з увагаў Беларускай місіі ў Бэрліне; гістарычны аддзел быў на пераглядзе ў Горадзенскага юрыста Дытманна.

У кнізе сабраны такія артыкулы: «Край», «Жыхары», «Гандаль» (П. Крачэўскага), «Духоўная культура», «Беларускае мастацтва» (д-ра А. Іппэля), «З Беларускай літэратуры», «З Беларускай народнай паэзіі» (праф. Абіхта) й «Некаторыя беларускія вершы» (праф. Абіхта й Эльзы Вэтцман).

Чаго-небудзь новага дзеле беларускага чытача, асабліва таго, каму вядомы творы прафэсара акадэміка Е. Карскага, Шэйна, Раманава й інш., зборнік не прадстаўляе, аднак трэба аддаць справядлівасьць немцам: яны старанна сабралі тое, што зьяўляецца найбольш прыкметным у розных галінах жыцьця Беларускага народу.

Агульны погляд на Беларусь азначаецца ўжо ў першым артыкуле зборніка. Прыводзячы словы Гэттнара з яго кнігі аб Расіі, аўтар ад'значае: «Беларусы да гэтага часу прадстаўляюць найменш з'іначанае й найбольш тыпічнае славянскае племя; разам з тым яны зьўляюцца ў поўным значэньні слова пасынкамі долі. Значная частка беларускага народу, што нам канечна трэба заўважыць, гэта—сяляне, да 1862 г. быўшыя ў прыгоне. Вышэйшы стан грамадзянства—шляхта й паны, а так сама часткаю жыхары мястэчак, апалячаны й акаталічаны, так што яны згубілі сьвядомасьць сваей прыналежнасьці к беларускаму народу. Аднак, апасьля таго, як імпэт к нацыянальнай самасьвядомасьці стаў галоўным імпэтам новага часу, прыйшла пара, каб і беларускі народ прабудзіўся ад свайго доўгага сну; зьявіліся людзі з вышэйшых станаў беларускага грамадзянства, якія ўразумелі сваю народнасьць, прызналі сябе беларусамі й перасталі чурацца сваей роднай беларускай мовы» (стр. 5).

Аб самай беларускай мове аўтар артыкулу «Жыхары» робіць гэтакую адметку:

«Беларусы гавораць на асаблівай мове, якой характэрнай прыкметай ёсьць абмен гукаў «ё» і «о», калі яны ня маюць націску, на «а», што, аднак, прыкметна ў вадносінах да „о“ і ў вялікарускай маскоўскай гаворцы. У часы польскага панаваньня сюды ўвайшло шмат польскіх слоў. Палякі й расійцы могуць зносіцца з беларускімі работнікамі на сваіх мовах, але гэтая мова зносінаў складаецца з паўсёдных прынятых абаротаў. Беларускія дзеці разумеюць расійскіх настаўнікаў, але досыць слаба, й гэта зьяўлецца адною з прычын нязначнага ўплыву вялікарускай народнай асьветы. Дзеле таго, што палякі кажуць, што беларуская мова ёсьць сапсаваная польская мова, а расійцы,—наадварот, што яна ёсьць сапсаваная расійская, праф. Абіхт запрапанаваў паляку й вялікаросу ператлумачыць фразы з беларускага тыднёвіка, пры чым ні той, ні гэты не маглі ператлумачыць болей, чымся асобныя словы й звароты. Беларуская мова хоць, можа быць, і прадстаўляе сабою нешта сярэдняе паміж маскоўскай і польскай мовамі, ёсьць незалежная мова, розная, як ад першай, так і ад другой» (стр. 20).

У артыкуле „Гісторыя Беларусі“ дадзены кароткі нарыс беларускага руху да 1918 г.

Значны інтэрас прадстаўляе нарыс д-ра Альбэрта Іппэля аб беларускім мастацтве*).

У артыкулах „З Беларускай літэратуры“ і «З Беларускай народнай паэзіі» перакладзены праф. Абіхтам апавяданьні Т. Гушчы й беларускія казкі аб зьвярох. У артыкуле „Некаторыя беларускія вершы“ дадзены ў нямецкім перакладзе некаторыя беларускія песьні з выданьняў Грыневіча й А. Зязюлі, а так сама вершы вядомага беларускага паэта Янкі Купалы: «А хто там ідзе?» й «Родная мова». Вершы надрукаваны з нотамі.

Кніга ілюстравана 93 малюнкамі, да ..яе далучана мапа Беларусі.

М. Байкоў.

*) Гл. беларускі пераклад гэтага артыкулу на стр. 10.

